# РУНЬ

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ЛІТВЫ

ISNN 1392-7671 WWW.RUNBEL.LT

25 сакавіка 2002 № 46 кошт 1 літ

*У кожнага народу ёсьць свае каштоўнасьці, значэньне якіх нельга перааценіць. Гэта й гістарычная памяць народу, гэта й памяць пра самаахвярных змагароў, што прысьвяцілі свайму народу ўсе сілы й жыцьцё, нарэшце, гэта й нацыянальная сымболіка, якая каранямі сягае ў глыбіню вякоў. Да такіх найвялікшых каштоўнасьцяў адносіцца й Дзень Волі – дзень абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі...*

*Лявон Луцкевіч*

**Шаноўныя чытачы! Гэткім сказам роўна пяць гадоў таму пачынаўся самы першы на першай паласе у першым нумары “Руні” артыкул сьветлай памяці Лявона Луцкевіча “Дзень Волі”. Першы нумар нашае газэты выйшаў у сьвет тады, калі пасьля некалькіх, адносна спрыяльных для незалежнасьці Рэспублікі Беларусь гадоў, узьнікла навая пагроза ейнага скасаваньня з боку антыбеларускага прамаскоўскага рэжыму. Праз газэту “Рунь” сьвядомыя беларусы-віленчукі пастанавілі далучыцца да іншых і свой голас у абарону незалежнасьці і суверэнітэту Бацькаўшчыны. З Днём Волі вас, сябры! Віншуем таксама з надыходзячымі каталіцкім і праваслаўным Вялікаднямі! Хрыстос Ускрос!**




*З фотаархіву “Руні”: так адзначаўся Дзень Волі ў Віленскай сярэдняй школе ім. Францыска Скарыны ў 1999 г.*

## Суродзічы-беларусы!

Ад імя Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады – беларускай грамадзкасьці ў Канадзе – вітаю вас з 84-мі ўгодкамі Акту 25 Сакавіка 1918 г., якім у Менску была абвешчаная дзяржаўная незалежнасьць Беларусі ў ейных этнаграфічных межах. І хоць незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі была зьнішчаная бальшавіцкай Расейскай імпэрыяй, значэньне акту 25 Сакавіка нельга перааценіць:

1. Акт 25 Сакавіка 1918 г. запачаткаваў у беларускім адраджэнскім руху новы незалежніцкі пэрыяд, ад часу яго беларускі народ змагаецца за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі, бо разумее, што безь яе нас, як беларускую нацыю, акупант зьнішчыць. Гэтага вучыць нас і гісторыя, і сучаснасьць.

2. Калі-б не было Акту 25 Сакавіка, не было-б, хай сабе й фіктыўнай, БССР, а была-б толькі “Северо-Западная область” Савецкай Расеі.

3. Не было-б прадстаўніцтва БССР у Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў.

4. Не было-б сёньня й Рэспублікі Беларусь, бо з “Северо-Западной области” Расеі нельга было-б абвесьціць сувэрэннасьць Рэспублікі Беларусь.

Таму мы так высока цэнім Акт 25 Сакавіка й з году ў год беларусы па ўсім сьвеце ўрачыста сьвяткуюць ягоныя ўгодкі. Акт 25 Сакавіка вучыць нас, заклікае, дадае нам сілы ў змаганьні, дае нам веру, што нашыя – абсалютна кожнага з нас – штодзённыя высілкі й праца на карысьць беларускай вызвольнай справы, раней ці пазьней, дадуць плён, і мы будзем гаспадарамі на сваёй собскай зямлі – здабудзем дзяржаўную незалежнасьць Беларусі!

“Не загіне край забраны, покуль будуць людзі!”

Жыве Беларусь!

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч**

## 25 Сакавіка

беларусы Чыкага адзначаюць 84-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Вітаем цэлую грамаду ў Вільні, усіх суродзічаў у сьвеце з гэтым найвялікшым сьвятам беларускага народу!

**Вітаўт і Вера Рамукі**

## Рэдактару газэты „Рунь”

Ад імя найстарэйшай арганізацыі беларускіх пасяленцаў у Аўстраліі віншую Вас, Вашых сяброў, супрацоўнікаў і чытачоў з 84-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі векапомным Актам 25 Сакавіка 1918 году. Цяпер беларускі народ перажывае вялікі цяжар панаваньня антыбеларускага элемэнту на чале ведамага антыбеларуса, г. зв. “Лукі-Мудзішчава-прэзыдэнта”. Аднак я ёсьць перакананы, што нават сам “Лукавы” знае, што ягоная панаваньне ёсьць вельмі часовым і кароткім этапам жыцьця беларускага народу й што хутка прыйдзе час, калі ён і ўся ягоная хебра адыйдзе ў ганебную частку больш за тысячагадовай гісторыі беларускага народу, а сьвятыя ідэалы 25 Сакавіка зноў запануюць у Рэспубліцы Беларусь. Вечная слава творцам Акту 25 Сакавіка! Няхай вечна жыве Незалежная Рэспубліка Беларусь!

*Генэральны сакратар Belarusian Association of Australia*

**Алесь Алехнік**

## Дарагія суайчыньнікі!

Ад імя Латвійскага таварыства беларускай культуры “Сьвітанак” віншуем вас з найвялікшым сьвятам 25 Сакавіка – 84-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. У далёкім 1918 г. наш народ заявіў пра сваё жаданьне жыць у незалежнай нацыянальнай дзяржаве. Ад таго часу беларусы ўсяго сьвету верылі й верaць у свабодную, сапраўды незалежную й дэмакратычную Беларусь. Зычым вам, дарагія суродзічы, плёну ў справе захаваньня нацыянальнай спадчыны, адраджэньні беларускае дзяржаўнасьці, культуры й мовы. Жыве Беларусь!

***Рада ЛТБК “Сьвітанак”***

## Дарагія суродзічы!

Выканаўчы камітэт Фэдэральнай рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі шчыра вітае вас і ўвесь беларускі народ з 84-мі ўгодкамі Акту 25 Сакавіка 1918 году й жадае посьпехаў у вашай працы на карысьць беларускага народу й нашай Бацькаўшчыны-Беларусі. 84 гады таму назад беларускі народ актам 25 Сакавіка абвесьціў усяму сьвету аб сваім самастойным жыцьці. Аднак тагачасныя міжнародныя ўмовы не былі для нас спрыяльныя. У ходзе ваенных падзеяў Беларусь была паняволеная й падзеленая. Нягледзячы на гэта, беларускі народ не зьмірыўся зь няволяй. Слуцкае й Вяліжскае паўстаньні й нацыянальна-творчы ўздым падчас Другой сусьветнай вайны – тварэньне Беларускай Цэнтральнай Рады, беларускай адміністрацыі й войска, ды легендарны Друкі Кангрэс – чэрпалі сваю жыватворчую сілу з пастановаў 25 Сакавіка. Акт 25 Сакавіка зьяўляецца пуцяводнаю зоркаю, якая беларускі народ на Бацькаўшчыне й беларусаў, разьцярушаных па ўсім Вольным Сьвеце, вядзе й аб'ядноўвае ў змаганьні за лепшую долю нашай Маці-Беларусі. Туман фальшывай камуністычнай прапаганды пачынае ападаць і заходні сьвет бачыць сапраўднае абліччa маскоўска-мангольскіх апрычнікаў і свае гадоўлі хрыстапрадаўцаў і ідзе на помач сапраўдным змагаром за лепшую долю нашае Бацькаўшчыны. Ушаноўваючы 84-ыя ўгодкі 25 Сакавіка, будзем імкнуцца, каб данесьці ідэал незалежнасьці Беларусі да канчатковага вызваленьня зь “імпэрыі зла” – драпежных кіпцюроў, якія скрозь у крыві нашага народу. Жыве Беларусь!

*Сакратар ВК Рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі*

**Паўлюк Гуз**

## Вандроўка ў Высокі Двор (Аўкштадварыс)

Сёлета вучні школы імя Ф. Скарыны Грыбоўская Аксана, Быстрыноўская Надзея, Бука Натальля, Базар Лена зрабіліся сябрамі экалягічнага клюбу, які знаходзіцца ў Павільнюсе. У клюбе вырашаюцца розныя экалягічныя праблемы, сябры клюба бяруць удзел у выкананьні разнастайных міжнародных праектаў. Летась яны занялі другое месца ў адным з такіх праектаў, а неўзабаве, у красавіку, будуць браць удзел у чарговым праекце ў Клайпэдзе. Цяпер юныя эколягі займаюцца праблемай забруджваньня ракі Віленкі ў Вільні. Яны ўжо бралі пробы вады каля некаторых фабрыкаў і заводаў у горадзе, а пасьля ва ўнівэрсытэце празь мікраскоп вызначалі, колькі там знаходзіцца аднакледачных водарасьцяў, каб даведацца пра ступень забруджаньня вады.

У клюбе ёсьць звычай выяжджаць на зімовых канікулах за горад сьвяткаваць зімовыя сьвяты. Сёлета мы паехалі за 58 кілямэтраў ад Вільні ў Высокі Двор. Наваколльне Аўкштадварыса – адзін з самых маляўнічых куткоў Літвы. Яно прыцягвае да сябе сваімі непаўторнымі краявідамі, азёрамі, спакоем, чыстым водарам ляснога паветра. Прабылі мы там два дні, начавалі ў вёсцы Стрэва непадалёк ад Высокага Двара. Першым днём нас чакаў турыстычны маршрут па лесе. Напачатку спыніліся каля прыроднага помніка «Вяльнё дуобе» («Чортава ўпадзіна»). Помнік гэты невядомага паходжаньня: ўпадзіна правільнай формы, глыбіня 40 мэтраў, зьнізу балота. Прычым пазнаёміцца з упадзінаю можна толькі йдучы па адмысловай дарожцы. Наступна мы спыніліся каля «Шкілято эжэрэй» («Шкіляцкія азёры»), на пагорку паміж двума маляўнічымі азёрамі. Зь яго можна было пабачыць іншы пагорак «Памішкё пілякальні» – на ім калісьці месьціліся абарончыя збудаваньні нашых продкаў. Далей мы наведалі «Мяргішкю дварветэ» («Дзявочы фальфарак») і «Мяргішкю алкэкменіс» («Дзявочы валун») – велізарны камень з дробнымі ямачкамі на паверхні. Гэта рэліквія паганцаў. Апошнім пунктам нашага падарожжа была «Гяданоню калнас» («Жалобны курган»).

Вяртаючыся, сустрэлі лясьніка, які ехаў на кані з санкамі. Лясьнік падвёз нас да самай нашай хаты. Прыемна было ехаць на санках па зімовым лесе. Успомнілася чамусьці родная вёска. У хаце мы распалілі агонь, пасьля прынесьлі трохі сена, каб цяплей было спаць, бо падлога была з плітак, каля парогу паслалі шкуру дзіка. Неўзабаве нашая халодная хата пераўтварылася ў вельмі цёплае ўтульнае жытло. Апоўначы мы пачалі варажыць, узгадваючы ўсе беларускія й літоўскія калядныя звычаі й традыцыі.

Наранье лясьнік запрашаў нас з сабой на паляваньне, але, на жаль, мы праспалі. Паляваньне ў лесьніка ўдалося. Ён прынёс з сабою сьвежую шкуру дзіка з кроплямі крыві на ёй. Назаўтра мы наведалі ня менш цікавую ўпадзіну, якая знаходзіцца пад Стрэваю й называецца «Западля яма» , кажуць, тут некалі стаяла праклятая карчма. А яшчэ мы наведалі вясковы музэй, дзе экспануецца народная творчасьць нашых продкаў, музэй толькі пачынае сваё існаваньне.

**Сьвятлана Грышко**
Настаўніца біялёгіі й хіміі

## У школе імя Ф. Скарыны

адбыўся юбілейны вечар, прысьвечаны сьветлай памяці "дзядзькі Лявона" – Лявона Луцкевіча. 17 сакавіка яму споўнілася-б 80 гадоў. На юбелейнай вечарыне нашага знакамітага беларуса-віленчука, рэй на якой вяла настаўніца Алена Базюк, школьнікі чыталі ўрыўкі з публікаткі пісьменьніцы Галіны Войцік (з сэрыі вы-ва "Рунь" "Партрэты віленчукоў") пра жыцьцёвы й творчы лёс юбіляра, а таксама з кнігі самога Лявона Луцкевіча "Вандроўкі па Вільні". Гучаў і жывы голас Лявона Луцкевіча ў запісы – ён прачытаў верш М.Танка пра Вільню. Пра "дзядзьку Лявона" падзяліліся сваімі ўспамінамі людзі, якія блізка ведалі яго: Міраслава Русак, Іна Аляшкевіч і, зразумела, сама Галіна Войцік. Прысутныя на вечарыне маглі пазнаёміцца з кніжнай і фатаграфічнай выставай, падрыхтаванай да юбілею школьнікамі і настаўнікамі.

**Валянціна Грыневіч**

## Паважаная газэта «Рунь»!

Найперш віншую ўсіх сяброў рэдакцыі з Сьвятам Волі, а таксама зь Вялікаднем (і каталіцкім, і праваслаўным). Зычу ўсяго найлепшага ня толькі беларусам, але для ўсіх тых, хто чытае газэту й жадае сапраўднай "Дэмакратыі для Беларусі", для ўсіх беларусаў сьвету. Мне напачатку гэтага 2002 г. "пашанцавала". Ішоў неяк позна з сваёй Майшагальскай школы, дзе ўжо шмат гадоў настаўнічаю, напалі маладзёны, моцна зьбілі, асабліва, як бывае, пацярпела галава. Пасьля таго, як тры тыдні адляжаў у лякарні, сяджу цяпер на беразе Нёмана, беларуска-літоўскай ракі, у агромністым палацы, дзе за савецкі час набіралася здароўя каля 700 найвялікшых чыноўнікаў нашай былой Радзімы. Тады гэта быў шык, сапраўдны Захад. Цяпер нас тут такіх, як я, небаракаў – недзе каля 200. "Адпачываючыя" ў асноўным зь Вільні, ёсьць трохі й з Польшчы. Цэлымі днямі занятыя масажамі, ваннамі ды фізычнымі практыкаваньнямі. Ужо пасьпеў абыйсьці ўсё мястэчка Друскенікі, дзе й месьціцца мой палац. Гледзячы – плакаць хочацца. Кажуць, было раней 5-6 садзікаў, засталося – 2. Цягаюся ў вольныя хвілі каля Нёмана, інакш выглядаў ён 12 гадоў назад, асабліва самыя Друскенікі. Цяпер мястэчка нагадвае мне родную Майшагалу ды мой артыкул 12-гадовай даўнасьці "Вымрам як дыназаўры". Страх глядзець на агромністыя, пустуючыя гмахі санаторыяў і, таксама пустуючыя, невялікія дамкі для турыстаў. Багатыя людзі падаліся ў краіны трапічныя ды субтрапічныя, а тут – усе свае, падобныя. Так вось сяджу тутака на паўднёвым захадзе й паступова чмурэю. На вуліцы вясна, пачынае зелянець, Нёман шырокі плыве, але наўкола як бы ня тое – ня верыцца, што я ў Друскеніках.

**Юзаф Русакевіч**



«КАЗЮК» – 2002

## Якраз на Дзень Волі

і на Зьвеставаньне, 25 сакавіка 1992 г., у Міністэрстве юстыцыі ЛР было зарэгістраванае нашае Таварыства беларускай мовы Віленскага краю. 10 гадоў таму знайшліся скептыкі й нават нядобразычліўцы сярод нашых віленскіх беларусаў, якія імкнуліся перашкодзіць рэгістрацыі нашай арганізацыі. Ня будзем называць іхныя імёна публічна – няхай ім будзе самім сорамна праз гэта сёньня, калі ТБМ за 10 гадоў сваёй дзейнасьці апраўдала сябе, бо самаахвярна працавала на беларускай ніве. У Дзень Волі, у дзень 10-гадовага юбелею нашага Таварыства хачу падзякаваць усім тым, хто так ці інакш працаваў разам з намі ўсе гэтыя гады ў справе адраджэньня, разьвіцьця й захаваньня беларушчыны як у Літве, так і ў Беларусі. Дзейнасьць ТБМ і надалей будзе адзначацца добрымі справамі на карысьць Бацькаўшчыны. Хай дапамагае ўсім нам Бог!

*Старшыня ТБМ Віленскага краю*
**Юры Гіль**

## Дэпутаты Віленскага раённага самакіраваньня

будуць разглядаць на бліжэйшай сэсіі пытаньне пра наданьне Савічунскай бібліятэцы імя Франьцішка Багушэвіча. Усе неабходныя матар'ялы дзеля гэтага ў раённае самакіраваньне пададзеныя, а камітэт у справах культуры й адукацыі іх разгледзіў, ухваліў ды перадаў на далейшы разгляд дэпутатаў. Гэта ўжо радуе, бо ў свойчас мясцовыя палякі (у прыватнасьці, кіраўніцтва Лаварышскай сярэдняй школы) паднялі вэрхал вакол ушанаваньня памяці Браніслава Тарашкевіча з той, нібыта, нагоды, што наш знакаміты зямляк быў зьвязаны з КПЗБ.

**Юры Гіль**

## Матар'ялы да кананізацыя

Адама Станкевіча й Вінцэнта Гадлеўскага падрыхтавала Беларуская каталіцкая грамада Вільні ды накіравала іх на разгляд гродзенскаму біскупу А. Кашкевічу з надзеяй, што папа рымскі Ян Павал ІІ далучыць іх да ліку багаслаўленых. Для нас, беларусаў-каталікоў, ксяндзы А. Станкевіч і В. Гадлеўскі зьяўляюцца сьвятымі, якія загінулі пакутніцкай сьмерцю ад крывавых рук бальшавісцкага й нацысцкага рэжымаў. Прыйдзе час, калі іхныя партрэты-абразы зоймуць пачэснае мейсца ў галерэі партрэтаў пры касьцёле Сьв. Барталамэя ў Вільні. Ды дапаможа нам у гэтай сьвятой справе Бог!

**Юры Гіль**

## Напрыканцы лютага

Вільню й Віленшчыну наведала вядомая беларуская дасьледчыца-гісторык з Польшчы Лена Глагоўская. Разам зь сябрамі рэдакцыі газэты "Рунь" яна пабывала на мейсцы нараджэньня Ф. Багушэвіча ў Сьвіранах, у суседніх Савічунах, на муры якой нядаўна была прымацаваная мэмарыяльная табліца з барэльефам пісьменьніка работы скульптара Э. Падбярэскага, а таксама ў музэі-сядзібе польска-беларускага пісьменьніка Уладыслава Сыракомлі ў недалёкай Барэйкаўшчыне. Лена Глагоўская на свае вочы пераканалася і ў патэнцыйнай цікавасьці гэтага маляўнічага кутка Віленшчыны для беларускіх вандроўнікаў, і ў ягонай цяперашняй занядбанасьці. Напрыклад, для сядзібы Сыракомлі не стае дроваў, каб атапліваць музэйныя залі, што дрэнна ўплывае на захоўваньне каштоўных экспанатаў.



*Перад музеем-сядзібаю У. Сыракомлі.*



*На сядзібе Ф. Багушэвіча ў Сьвіранах.*

# Структура, гісторыя й традыцыі недзяржаўнай беларускай прэсы

***Скарочаны даклад віцэ-прэзыдэнта Беларускай асацыяцыі журналістаў Анатоля Гуляева на літоўска-беларускім сэмінары "Праблемы літоўскай і беларускай журналістыкі сёньня" ў Друскеніках, 17 сакавіка 2002 г.***



Большасьць беларускіх недзяржаўных газэтаў асьвяткавалі сваё дзесяцігодзьдзе ў мінулым годзе... Такім чынам, афіцыйна рэгістраваныя недзяржаўныя беларускія пэрыядычныя выданьні бяруць свой пачатак ад пачатку 90-х. Нельга сказаць, каб недзяржаўная прэса не йснавала раней, бо дагэтуль масава выдаваліся розныя незарэгістраваныя лісткі, якія па-рознаму называліся, Адраджэньне", напрыклад, ды інш. Яны выходзілі ня толькі ў Менску, выходзілі яны і ў абласных цэнтрах, і на правінцыі. Так у Магіле выходзіў лісток з той самай назвай "Адраджэньне", зухаватае выданьне, якое нікога не баялася, усіх крытыкавала. Тон лістка быў выключна крытычны, абвінавачы, як, зрэшты, і ў астатніх нефармальных выданьнях. Я тады працаваў у Магілёве, быў "сабкорам" газэты ЦК КПСС "Сельская жизнь", гэты лісток абазваў мяне падхалімам і хамам, але я нічога ня мог зрабіць у сваю абарону, паколькі пярэчыць было бессэнсоўна, і палова гораду, якая мяне ведала, адразу-ж пачала мяне лічыць "падхалімам і хамам"... Гэта характэрная, між іншым, сытуацыя для нашай тадышняй прэсы, калі цябе кімсьці абзываюць, а ты нічога ня можаш адказаць на абразы...

Пасьля пачалі зьяўляцца першыя рэгістраваныя пэрыядычныя выданьні. І тут трэба адразу адзначыць адну важную асаблівасьць. Мы тут на канфэрэнцыі чулі, што, напрыклад, літоўская газэта "Verslo žinios" створаная на базе швэдзкага капіталу, дзесьці там у стварэньні літоўскіх газэтаў браў удзел нарвэскі капітал ды інш. Практычна-ж уся беларуская недзяржаўная прэса стваралася на вялікім энтузіязме й на мізэрных грошах. Вялікіх грошай не было – і тут ня можа быць ніякага параўнаньня з краінамі Балтыі ці, скажам, з Расеяй, дзе хуценька ўзьніклі алігархі, буйныя "грашовыя мяхі", якія пачалі ўкладаць сродкі ў стварэньне газэтаў... пасьля на гэтым капітале пачалі стварацца тэле й радыёканалы. У нас нічога падобнага не было. Усе нашыя цяпер існуючыя выданьні ствараліся на вельмі маленькіх сродках, г. зн. база была вельмі слабая. Гэта спрычынілася да таго, што калі пачаліся сур'ёзныя зьмены, калі пачаўся ціск на прэсу, утрымацца не было на чым і хутка практычна ўся недзяржаўная прэса перайшла на становішча прэсы, якая жыве на грантаўскія грошы. Гранты сёньня ці не асноўная крыніца йснаваньня для большасьці незалежных газэтаў. Ад гэтага нікуды ня денесься, такая нашая беларуская рэчаіснасьць. Бадай што адзіная газэта, у якую былі ўкладзеныя нямалыя грошы, гэта "Белорусская деловая газета" для бізнэсменаў... Гэта, бадай, адзіны выпадак, калі больш менш сур'ёзныя грошы былі ўкладзеныя, Усё астатняе стваралася прыкладна так, як мы год таму стваралі газэту "Дзень": сабралі грошы, якія былі, абсталяваньне часткова купілі, часткова папрасілі ды пачалі выдаваць газэту. Перад выбарамі нашую рэдакцыю разрабавалі, кампутары пабілі, мы засталіся без граша, пачалі зноў клянчыць грошы, выклянчылі, нам далі абсталяваньне, зноў пачалі выдавацца. Роўна цераз тыдзень рэдакцыю нанова разрабавалі і ўсё абсталяваньне пабілі. Мы зноў выклянчылі грошы й пакуль нас у чарговы раз не абрабавалі, выдаемся. Гэта характэрная сёньня для Беларусі сытуацыя... Матар'яльнае становішча недзяржаўнай прэсы ў нас дастаткова цяжкае. Эканамічныя ўмовы йснаваньня ў параўнаньні зь дзяржаўнай прэсай створаныя нароўныя.

Калі казаць пра этапы разьвіцьця беларускай прэсы, дык некалі быў прыняты даволі дэмакратычны закон аб прэсе, сьпісаны з саюзнага закону, які дазваляў нам нармальна працаваць. Тады дзяржаўныя выданьні разам зьмянілі свой твар, яны перасталі быць казённымі, зрабілася цікава чытаць "Зьвязду", "Советскую Белоруссию". І, між іншым, недзяржаўныя выданьні таксама пачалі падцягвацца сваімі накладамі. Быў час, калі "Свободные новости" мелі 90 тыс., калі "Свабода", адна, дарэчы, зь першых беларускіх недзяржаўных газэтаў, таксама пісала наклад 90 тыс. Аднак, пачынаючы з 94-га году, з прыходам да ўлады Аляксандра Лукашэнкі, пачаўся ціск, было прыватызаванае выдавецтва "Дому друку", пасьля пачалі вытурваць рэдактараў... Адзначу, што ў часе разгону нашыя рэдактары прадэманстравалі сябе ва ўсім "бляску". Памятаеце, як пачалі выганяць Асінскага, рэдактара "Советской Белоруссии", як сабраліся рэдактары, якія нібыта мелі намер падпісаць ліст у ягоную абарону, як сп. Ёсіф Сярэдзіч сказаў, чаму гэта я буду абараняць Асінскага, і ліст гэты так і ня быў падпісаны. Потым пачалі выганяць Ёсіфа Сярэдзіча, і ўжо ніхто ня стаў на ягоную абарону. Потым рэдактароў навогул пачалі мяняць, як пальчаткі. І вось гэта, для мяне асабіста, такі этап, калі нашая беларуская прэса прадэманстравала сваю слабасьць, адсутнасьць салідарнасьці, і з гэтага моманту разбуральны працэс пайшоў. Дарэчы, шмат якія рэдактары ў 94-ым ускладалі спадзяваньні якраз на Лукашэнку, які тады заігрываў тады з прэсай, у прыватнасьці, рэдактар "Свободных новостей" Аляксандар Уліцёнак, які лічыў, што недзяржаўная прэса будзе пастаўленая ў такія самыя прыкладна ўмовы, што й дзяржаўная – будзе атрымліваць датацыі, на аснове якіх можна будзе ствараць прыстойную базу і г. д. Менавіта таму, калі Аляксандар Рыгоравіч перамог, шмат якія (зараз ніхто ня хоча пра гэта ўзгадваць) недзяржаўныя выданьні, уключаючы "Свободные новости", выйшлі зь вялікімі загалоўкамі-шапкамі, маўляў, нарэшце гэтае адбылося! Праўда, ужо цераз пару месяцаў многа хто пашкадаваў, аднак гэта ўжо іншая гісторыя.

Цяпер трохі статыстыкі. На сёньня ў Міністэрстве інфармацыі зарэгістравана больш, чым 1100 выданьняў (1169, як мне здаецца). Калі глядзець паводле формаў уласнасьці, дык дзесьці каля 400 выданьняў дзяржаўныя (маюцца на ўвазе выданьні ворганаў улады, прадпрыемстваў, дзяржаўнага падпарадкаваньня, і інш.), і трохі больш за 700 выданьняў – недзяржаўныя... Фармальна атрымоўваецца, што мы маем у Беларусі больш за 700 выданьняў, недзяржаўнай формы ўласнасьці, што дае падставу беларускім уладам гаварыць, што ў нашай краіне поўная дэмакратыя, паколькі недзяржаўных выданьняў больш. Аднак, як казалі старажытныя, кожная ісьціна без падрабязнасьцяў невартая й ломанага граша. Дык вось гэтую ісьціну – суадносіны дзяржаўнай і недзяржаўнай прэсы – трэба разглядаць цераз падрабязнасьці, а падрабязнасьці такія: з гэтых 700 недзяржаўных выданьняў значная колькасьць не выходзіць зусім, а калі й выходзяць, дык раз на год, паколькі грошай на рэгулярны выхад ня мае (выдавацца раз на год трэба, каб не адабралі ліцэнзію). Апрача таго, калі ўзяць толькі грамадзка-палітычную прэсу, дык вымалёўваецца такая карціна: калі ў частцы дзяржаўных выданьняў большасьць выданьняў зьяўляюцца грамадзка-палітычнымі (за выключэньнем дзіцячых, мастацка-літаратурных і пад. выданьняў), дык у частцы недзяржаўных выданьняў мы маем толькі 54-56 грамадзка-палітычных выданьняў, якія выходзяць збольшага рэгулярна, з накладам ня менш, чым 1500 асобнікаў. Як бачыце, карціна радыкальна мяняецца. Прычым, што тычыцца накладаў, дык наклады дзяржаўных выданьняў дастаткова вялікія. "Советская Белоруссия" мае, напрыклад, наклад 300 тыс. Дарэчы, калі "Советская Белоруссия" ўзьняла кошты да рэальнага ўзроўню, ейны наклад зьменшыўся на 50 тыс., "Рэспубліка" – на 70 тыс. Іншая справа, што ў недзяржаўных выданьняў няма нават такіх накладаў, на якія зьменшваецца наклады дзяржаўных выданьняў. Самы вялікі наклад, напэўна, зь недзяржаўных выданьняў мае "Вечерний Могилёв" – 50 тыс. "Народная воля" зь ейным накладам 35 тыс. стаіць на другім мейсцы... Калі браць супольны разавы наклад усіх недзяржаўных выданьняў Беларусі, атрымліваецца дзесьці 320-350 тыс. Па-сутнасьці, гэта тыраж адной толькі "Советской Белоруссии". Тады як супольны наклад усёй недзяржаўнай прэсы складае больш за 3,5 млн. – суадносіны 1:10.

Абрыдла ўжо й ня хочацца плакаца, хачу ўнесьці нотку здаровага аптымізму. Хачу сказаць, што за апошні год-паўтары наклад недзяржаўнай грамадзка-палітычнай прэсы зрабіўся большым. Зьвязанае гэтае, на мой погляд, зь вялікай цягай у грамадзтве да аб'ектыўнай інфармацыі. Таму зьяўляюцца новыя выданьні, асабліва ў правінцыі. Зьявіліся выданьні ў Слуцку, у Горках. Дзесьці на 7 выданьняў за два гады стала больш. Гэта надае крыху аптымізму.

Натуральна, што недзяржаўная прэса ў нас не атрымоўвае ніякіх дзяржаўных датацыяў. Тады як за мінулы год, напрыклад, 135 рэгіянальных дзяржаўных выданьняў (у тым ліку 118 раённых газэтаў) былі датаваныя дзяржавай у памеры ад 35 да 70 адсоткаў усіх затратаў. Рэдактар "Советской Белоруссии" Павел Якубовіч любіць распавядаць пра тое, што ён датуецца зь дзяржбюджэту толькі на 13 адсоткаў. Зноў-жа, што называецца, напісанае без падрабязнасьцяў. А падрабязнасьць такая, што гэтыя 13 адсоткаў складаюць крыху менш 400 тыс. дал. у год. Дайце мне такія грошы і потым пабачым, чыя газэта будзе лепшая. Міністэрства інфармацыі РБ называе лічбу 5-7 млн. дал. на датацыі, але трэба памятаць, што лічба гэтая "лукавая", бо называецца памер датацыі толькі зь дзяржбюджэту. А ёсьць яшчэ мяйсцовыя бюджэты. У выніку, сёньня такая сытуацыя, што калі раней у дзяржаўных, асабліва раённых газэтах і зарплата была вельмі маленькай, і тэхнікі ў іх не было, дык цяпер сытуацыя падцягваецца. Напрыклад, тыдзень таму прыяжджалі супрацоўнікі "Советской Белоруссии" атрымоўваць зарплату за месяц, дык "сабкор" з Горадні атрымаў на рукі 400 тыс. бел. рублёў (235 дал.). Нібыта й нічога. У нашых недзяржаўных рэгіянальных выданьнях столькі ні ў якім разе не атрымаеш. Почасту мы месяцамі зарплату не выплачваем зусім і нашыя людзі жывуць на "сухім пайку"...

З 53 недзяржаўных грамадзка-палітычных выданьняў 27 – рэгіянальныя. Павінен з задавальненьнем сказаць, што сёньня ў Беларусі вырас даволі прыстойны атрад рэгіянальнай прэсы. І вось чаму. Многія з супрацоўнікаў цэнтральных газэтаў бачылі сябе й бачаць ня столькі журналістамі, колькі палітыкамі. Што ні журналіст, скажам, Віця Марціновіч, то – кандыдат у прэзыдэнты, што ні журналіст, то змагар. Кожны ходзіць у штыкі на прэзыдэнта. Калі, напрыклад, у "Народнай волі" ў адным тым самым нумары ня сказана, што Лукашэнка дурань, дык дзень, нібыта, прапаў задарма. Гэта ў значнай ступені пераўтварала й пераўтварае некаторыя газэты ў "баявыя лісткі", якімі газэты, згодна сваёй прыроды, не зьяўляюцца. У журналістыцы йснуе такое паняцьце, як інфармацыйная насычанасьць. Штопраўды, з прыходам у "Народную волю" Анатоля Казловіча газэта зрабілася лепш афармленай, больш у ёй зьявілася аналітычных матар'ялаў. Залішняя запалітызаванасьць сталічных выданьняў працягваецца таму, што ў сталічных выданьняў большы аўтарытэт у грамадзтве: паспрабуй толькі крануць "Народную волю" – увесь сьвет стане на абарону. А рэгіянальныя выданьні больш уразьлівыя перад уладамі. Калі тыя вынесуць ім, напрыклад, два папярэджаньні, іх папросту закрыюць, і ніхто за іх не заступіцца. Таму рэгіянальныя выданьні змушаныя быць больш аб'ектыўнымі, не хадзіць ў штыкі на прэзыдэнта, арыентавацца на чытача, імкнуцца публікаваць мяйсцовую інфармацыю пра тое, што дах працякае, дарогі кепскія й г. д., уласна кажучы, пра тое, што цікавіць кожнага псыхічна нармальнага чалавека. Таму нашыя рэгіянальныя газэты сёньня больш прафэсыйныя, чым сталічныя, таму мы маем, скажам, такі фэномен, што, напрыклад, у Смаргоні наклад недзяржаўнай "Новой газеты Сморгони" – 9,5 тыс, а дзяржаўнай "Светлы шлях" – 2,5 тыс. Тая самая карціна ў Слоніме. Там выходзіць вельмі сымпатычная газэта "Газета Слонімская", высокапрафэсыйная, з высокім узроўнем інфармацыйнай насычанасьці. Ейны наклад – 10 тыс. Тамтэйшая дзяржаўная раёнка таксама піша наклад 10 тыс., але мне паказвалі гараж, куды складаюцца непрададзеныя газэты. Рэальна ў Слонімшчыне расходзіцца 4-5 тыс. раёнак. Вельмі прыстойнай рэгіянальнай газэтай зьяўляецца "Брестский курьер", "Витебский курьер".

Калі браць тэрытарыяльна, дык у нас дастаткова многа недзяржаўных газэтаў у Менску й Менскай вобласьці, у Гродзенскай і ў Брэсцкай вобласьці таксама з гэтым добра, а вось у Магілёўскай і Гомельскай вобласьці засталося, па-сутнасьці, па адной-дзьве газэты. Вельмі паднялася апошнім часам Баранавіцкая гэзэта "Інт-экспрэс" (наклад – 14 тыс.).

Што да радыё, дык у Беларусі на сёньня няма ніводнай недзяржаўнай радыёстанцыі, якая-б давала грамадзка-палітычную інфармацыю. Была адзіная й легендарная радыёстанцыя 101,2, але яе раздушылі без тлумачэньня прычыны. Ёсьць спроба вяшчаньна на Беларусь з Варшавы (радыё "Рацыя"), праект гэты тэхнічна вельмі цяжкі, ня ведаю, як толькі супрацоўнікі "Рацыі" зь ім спраўляюцца... Што да тэлебачаньня, дык у нас у Беларусі толькі адзін нацыянальны канал, кіраўніка якога назначае асабіста прэзыдэнт. Ён-жа, прэзыдэнт, асабіста ўказвае, што трэба рабіць, каго паказваць, каго не паказваць...

Такая вось склалася ў Беларусі сёньня сытуацыя зь недзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі. Адно цешыць, што яна ня самая горшая на постсавецкай прасторы. У суседняй Расеі, напрыклад, якая шмат кажа пра свае дэмакратычныя традыцыі, ідуць, па-сутнасьці, тыя самыя працэсы, што і ў нас. Мы ведаем, што адбылося з НТВ і ТВ-6, а між іншым, паводле дадзеных Фонду абароны публічнасьці ў Расеі, там ужо 80 адсоткаў недзяржаўных выданьняў адзяржаўленыя. У нас-жа недзяржаўная прэса пакуль трымаецца. Апрача таго, журналісты ў Расеі гінуць са зьмрочнай рэгулярнасьцю, у нас з гэтым лепш... Цешыць таксама й тое, што нашыя недзяржаўныя газэты робяцца ўсё больш прафэсыйнымі. Усё большая колькасьць супрацоўнікаў незалежнай прэсы пачынае разумець, што газэта гэта бізнэс-прадпрыемства, што трэба вырабляць якасны прадукт, які можна прадаць.

*Запісаў і пераклаў з рас.*
*А. М.*

УСПАМІНЫ

# Там, дзе мяне няма...

**13. Вяртаньне Тоніка. Паступленьне й вучоба ў асьпірантуры Маскоўскага інстытуту замежных моваў. Праца над дысэртацыяй і абарона.**

У 1956 г. здарыўся цуд: вярнуўся Тонік. Напачатку году мяне выклікалі ў міліцыю й запыталіся, ці я ведаю Антона Шантыра. Я сказала, што гэта мой брат, сын маёй маці ад першага мужа Фабіяна Шантыра, таму ў нас розныя прозьвішчы. Мне сказалі: „Ён Вас шукае", — і далі адрас: Тайшэцкая вобл. Калі я прыйшла з гэтаю весткаю дадому, маці і плакала, і сьмяялася, яна так ніколі й ня верыла, што Тонік згінуў. Напісалі яму ліст, прыйшоў адказ, а недзе вясною прыехаў Тонік і сам. Пастарэўшы, худы, без зубоў (у яго былі залатыя каронкі). Аказалася, што ён быў асуджаны на 25 гадоў бяз права ліставаньня. Мама трымала яго за руку, як бы хацела быць пэўнай, што гэта ён, з крыві й косьці, не спускала зь яго вачэй.

Жыць у нас Тонік ня меў права, зарэгістраваўся ў вёсцы за аэрадромам, знайшоў працу на лесапілцы. У суботу прыходзіў, заставаўся на нядзелю. Працаваў ён так недзе каля году, захварэў, нейкія нарывы на твары. Зрабілі апэрацыю: раз, другі, на твары застаўся шрам. Працу ён кінуў і ўжо больш не працаваў. Утрымліала сям'ю я. Апрача працы ў інстытуце мела яшчэ лекцыі з групамі моладзі й старэйшых людзей, якія хацелі хоць у пэўнай ступені аваладаць нямецкай мовай.

У жніўні 1957 г. я рашыла паступіць у асьпірантуру, аднак гэтым разам не было ніякага рээрваванага мейсца й трэба было йсьці па конкурсе. Я выслала ўсе патрэбныя паперы ў Маскоўскі інстытут замежных моваў імя Морыса Тарэза. Цераз нейкі час дастала пасьведчаньне, каб паехаць на экзамен. Я ўжо зьбіралася ехаць у Маскву, але прыехала Валя Войцік, дачка дзядзькі Ваццюка, якая хацела паступіць у Гродзенскі пэдінстытут, і прасіла пратэкцыі. Я паехала зь ёй у Горадню, усё ўладзіла, хаця, думаю, яна паступіла-б і без мае помачы. Толькі потым паехала ў Маскву. Часу да экзамену было мала, аднак я не праймалася, бо амаль усе тэарэтычныя курсы чытала студэнтам. Камісія была салідная, але я толькі пасьля даведалася, „хто ёсьць хто". Пасьля экзамену да мяне падайшла В. І. Маскальская, сказал, што возьме мяне да сябе, калі я паступлю, і дадала: „На практычныя заняткі па нямецкай мове Вам няма чаго хадзіць". Гэта была высокая ацэнка маіх ведаў. Я здала іспыты зь філязофіі й ангельскай мовы й паехала дамоў. Цераз пару тыдняў атрымала паведамленьне, што мяне залічылі ў асьпірантуру.

У Маскве далі пакой у інтэрнаце ў Петраверыцкім завулку, са мною жыла нейкі час татарка, пасьля расейка й нарэшце азэрбайджанка Марыям Караева, зь ёй мы сябравалі. У мяне былі толькі заняткі з параўнаўчай германістыкі, я хадзіла ў Інстытут мовазнаўства АН да праф. Інвера Ахмедавіча (прозьвішча ніяк ня ўспомню). Гэта быў інтэлігентны чалавек, эрудыт, гаварыў на вельмі добрай расейскай мове, ведаў нямецкую, ангельскую й французскую мовы. Быў у Маскве адзіным чалавекам, зь якім я гаварыла па-нямецку. Апрача сэмінараў і працы ў бібліятэцы я мела яшчэ заняткі зь нямецкай, літоўскай і нават гоцкай мовы, каб крыху зарабіць да стыпэндыі. Гоцкай мовай займалася з адным немцам, які працаваў над тэмай „Прыказкі ў нямецкай і расейскай мовах". Ён ведаў вельмі шмат расейскіх прыказак і забаўна злучаў дзьве падобныя сэнсам у адну, накшталт: „Пуганая ворона на молоко дует".

На Каляды я паехала дамоў. Увосені 1957 г. у Вільню вярнуліся Лявон і Юрка Луцкевічы. Яны каля месяца жылі ў нас, а пасьля знайшлі кватэру ў Лянтварысе (у Вільні, як і Тонік, яны ня мелі права жыць). Мы сустрэліся ў іх на Новы год. 1958. Я іх ня бачыла ад юбілею ВБГ у 1944 г. Юрка распаўнеў, а Лявон насіў невялікую бародку й вусы. У зімовыя канікулы я працавала на завочным аддзяленьні факультэту замежных моваў ВПУ — 2 тыдні, а летам мела па 10-12 гадзінаў у дзень. Працавалі й асьпірантқі з ангельскай і французскай катэдры. Пасьля, будучы ўжо дацэнтамі з навуковымі ступенямі, мы часта ўспаміналі гэтыя час і дзівіліся, як вытрымоўвалі гэткія нагрузкі. Маладосьць!

Здаўшы ўсе кандыдацкія экзамены за першы курс, я ўзялася за працу над дысэртацыяй. Выбрала тэму з гісторыі нямецкай мовы „Апрашчэньне складаных словаў і дэрыватаў у гісторыі нямецкай мовы". Маім навуковым кіраўніком была Вольга Іванаўна Маскальская. Усіх навуковых кіраўнікоў можна разьдзяліць на два тыпы. Адныя патрабуюць ад сваіх асьпірантаў штотыднёвай справаздачы з прачытанага, канспэктаў і пад. Другія не цікавяцца тым, калі й як працуе асьпірант. Яны заўсёды гатовыя парадзіць, пракансультаваць, але ініцыятыва павінная сыходзіць ад самага асьпіранта. Мая Вольга Іванаўна якраз адносілася да другога тыпу, і мы зь ёй сустракаліся ня часта. Апошняга варыянту маёй дысэртацыі яна не чытала, сказала, што будуць чытаць апанэнты.

Час, праведзены ў асьпірантуры, узгадваю няраз. Праца ў бібліятэцы (імя Леніна), прыватныя лекцыі, — усё займала цэлы дзень. Аднак знаходзіўся час, каб пайсьці ў тэатар, кіно, паехаць за горад. Зь бібліятэкі я звычайна варочалася каля 9-10 вечара й ішла пехатою, каб крыху парухацца. Часам у інтэрнаце ладзілі супольную вячэру з рознымі нацыянальнымі стравамі — асьпіранты былі з усяго Савецкага Саюзу.

У 1961 г., раньняй вясной, я закончыла асьпірантуру. Аднак бараніць дысэртацыю не магла, бо ня мела публікацыяў паводле тэмы працы. Каб апублікаваць артыкул у нейкім маскоўскім часопісе, трэба было мець або знаёмства, або грошы. Я ня мела ні таго, ні іншага. Два артыкулы я здала ў часопіс „Kalbotyra" Віленскага ўнівэрсытэту. Бараніла я дысэртацыю ўвосені 1963 г., якраз калі забілі Кэнэдзі і ўсе былі пад вялікім уражаньнем гэтай трагічнай падзеі. Абарона прайшла гладка, уся навуковая рада галасавала „за". Цераз пару месяцаў я дастала дыплём кандыдата філялягічных навукаў і была першай германісткаю ў пасьляваеннай Літве, якая атрымала навуковую ступень.

*Працяг будзе*

**Галіна Войцік**



*Зьлева направа: А. Луцкевіч, А. Шантыр, Ю. Луцкевіч. 1959 г.*

# Як гэта было...

## Да 16-годзьдзя Чарнобыльскай трагедыі

Асабіста для мяне дні з 26 красавіка па 1 траўня 1986 г. запомніліся на ўсё жыцьцё. Адразу-ж скажу, што пра Чарнобыльскую аварыю я даведаўся яшчэ да таго, як пра яе абвесьцілі "заходнія галасы". Мой родны пасёлак разьмешчаны непадалёку ад адзінага ў Беларусі атамнага рэактара, і многія жыхары пасёлка працавалі тады на гэтым рэактары ці, як ён афіцыйна называўся, у "Інстытуце ядзернай фізікі". 26 красавіка работнікаў інстытуту пасьля зьмены чамусьці асабліва старанна дасьледавалі прыборамі й прымусілі яшчэ раз прыняць душ. Аднак і пасьля гэтага прыборы, верагодна, давалі пакашчыкі, каторыя прывялі работнікаў інстытуту ў стан лёгкай панікі, і нікога дамоў не адпускалі. Да таго-ж выявілася, што ўзровень радыяцыі на вуліцы яшчэ вышэйшы, чым у памяшканьнях, а калі сазваніліся з калегамі, даведаліся, што "зараз" прынесла з Украіны. "Выкід на ўкраінскай станцыі!" – распавялі супрацоўнікі інстытуту, вярнуўшыся дамоў (Слова "Чарнобыль" тады яшчэ не фігуравала). Да гонару кіраўніцтва ядзернага інстытуту яно зараз-жа правяло невялікі інструктаж, у тым ліку і ў пасялковай школе, якую тады наведвала мая малодшая сястра. Аднак адзінае, што яны тады параілі, былі рэкамэндацыі сядзець дома, не расчыняючы вокны й форткі, і нічога ня есьці, што расьце на вуліцы.

Пагода тымі апошнімі красавіцкімі днямі была проста летняя! У інтэрнатах інстытуту, у якім я тады вучыўся, усе вокны былі разнасьцежаныя! Студэнты, зьняўшы кашулі, загаралі на даху, на траве й на шматлікіх лаўках навокал інстытуцкага стадыёну. А на мае словы пра радыяцыю адказвалі: "Ды пайшоў-бы ты! Вер болей гэтым варожым радыёстанцыям!"

У дзень 1 Мая, разам з многімі маімі таварышамі, і я пайшоў на сьвяточную дэманстрацыю. Акурат гэтым днём сонейка некуды падзелася. А калі мы прайшлі паўдарогі, пачаў накрапваць лёгкі радыёактыўны дождж (пазьней мы даведаліся, што яго выклікалі штучна, таму што радыёактыўныя аблокі рухаліся ў бок Масквы). Гэта была цікавая дэманстрацыя. Міліцыянэры першага-ж на падыходзе да трыбуны ачапленьня параілі нам ісьці хутчэй, каля другога ачапленьня загадалі рухацца як мага шпарчэй, а трэцяе ачапленьне проста крычала: "Хутчэй! Яшчэ хутчэй!" Нарэшце – трыбуна ў атачэньні выключна афіцэраў зь зялёнымі пагонамі. Нягледзячы на загад глядзець перад сабою, я нахабна абярнуўся ў бок трыбуны, пільна разглядаючы нашых "мяйсцовых правадыроў". Канечне-ж, за тыя некалькі хвіляў, за якія мы прабеглі міма трыбуны, немагчыма было запомніць іхныя твары – я нават ня ведаю прозьвішчаў тых, хто там тады знаходзіўся. Затое выдатна разгледзіў, што адлюстроўвалі гэтыя твары – яўнае азлабленьне й непрыхаваную нянавісьць. Яны-ж напэўна ведалі, што адбылося! І пад якой рызыкай разам з намі знаходзяцца!

"А навошта ты пайшоў на гэтую дэманстрацыю? – спытаецеся вы. – Мог-бы й ня йсьці!" Сапраўды, мог-бы. Ды вось прозьвішчы двух хлопцаў з нашае групы, якія, сапраўды, не пайшлі тады на "радыёактыўную" дэманстрацыю, цераз пару дзён зьявіліся на інстытуцкай дошцы аб'яваў – у загадзе дэкана пра адабраньне стыпэндыі "празь нявыхад на сьвяточную дэманстрацыю". Зараз шкадую, што не сарваў і не захаваў на памяць тую аб'яву – была ў мяне такая думка.

**Яўген Кеппул**
*Вільня*

# Троху пра Цімафея Косьцевіча, вывазках

Высылаю да вас свой чарговы артыкул. Магчыма варта зьмясьціць яго ў "Руні", бо мала хто ведае пра лёс беларусаў, як Косьцевіч, якія апынуліся ў Палестыне, і, наогул, пра арышты й вывазкі былых жаўнераў Войска Польскага на Захадзе, што вярнуліся на Бацькаўшчыну...

У сваіх успамінах ("Рунь" № 45) спн. Галіна Войцік памянула прозьвішча Косьцевіч, маючы, напэўна, на ўвазе Косьцевіча Макара Мацьвеевіча, заходнебеларускага паэта, які друкаваўся пад псэўданімам Макар Краўцоў. Гэтае прозьвішча нагадала мне кароткае знаёмства зь іншым Косьцевічам, Цімафеем, які таксама быў родам зь Вільні. А гісторыя была наступная.

У 1943 г. я, тады вучань Кадэцкай школы ў Палестыне, паехаў на сьвяты да праваслаўнай царквы ў Ерузалім. Затрымаўся ў сп. Косьцевіча, які мяне ветліва прыйняў і мною заапекаваўся (памяшканьнем, харчаваньнем). Быў ён сьціплым чалавекам і мала пра сябе й сваю радню гаварыў. Сябры тытулавалі яго доктарам. Цімафей Косьцевіч прыехаў у Палестыну з польскім войскам з СССР у 1942 г. быў, як мне сказалі, паручнікам ці падпаручнікам. У Палестыне яго дэмабілізавалі, і ён пасяліўся ў старой частцы Ерузаліма, у грэцкім манастыры. Ягоная цывільная пэнсія была нізкая, меў шкоду ад палякаў. Ён пачуваў сябе пакрыўджаным, дыскрымінаваным, з чаго не рабіў сакрэту. Мяркую, што пра ягоныя антыпольскія настроі даведаліся адпаведныя польскія ворганы. Пасьля пэўнага часу яго, ужо здэмабілізаванага, старэйшага гадамі, зноў зьмабілізавалі ў польскае войска, але ў чыне радавога, ды выслалі ў Эгіпэт. Напэўна, праз гэта ён чуўся яшчэ больш пакрыўджаным, што й змусіла яго на драматычную, нерацыянальную пастанову – вярнуцца да сваіх родных у Вільню. Гэта была вялікая рызыка.

Які быў далейшы лёс Ц. Косьцевіча ня ведаю. Ведаю аднак, што ўначы з 31 сакавіка на 1 красавіка 1951 г. Саветы арыштавалі былых польскіх жаўнераў, што пасьля вайны вярнуліся на Бацькаўшчыну. Арыштавалі таксама й іхныя сем'і. Вывезьлі іх на катаргу ў Сыбір, пераважна – у Іркуцкую вобласьць. Зь Літ. ССР вывезьлі 40 былых жаўнераў з сем'ямі. Можна меркаваць, што сярод гэтых вывезеных бальшыня была беларусаў. Магчыма, што сярод катаржанаў быў і Цімафей Косьцевіч.

Дзеля звесткі падам, што ў згаданую ноч НКУС вывез 40 былых польскіх афіцэраў зь Літ. ССР, 888 – з БССР і 19 – з Украінскай ССР, плюс іхныя сем'і. З гэтай статыстыкі бачна, што наш народ пацярпеў да савецкіх камуністаў значна больш, чым нашыя суседзі, літоўцы і украінцы. У 1955-58 гг. многія з гэтых вывезеных у Сыбір, паводле дамовы паміж СССР і Польскай Народнай Рэспублікай, былі рэпатрыяваныя ў Польшчу (як былыя ейныя грамадзяне). Сумняваюся, што ў Польшчы яны знайшлі зразуменьне, шчасьце й духовы спакой.

У 1998 г. у Варшаве выйшла кніга пад назвай "З-пад Монта Казіно ў Сыбір. Дэпартацыя былых жаўнераў Польскіх Збройных Сілаў на Захадзе зь Беларусі, Літвы і Украіны ў 1951 годзе". Апрацаваў кнігу Пшэмыслаў П. Раманюк. У кнізе 299 старонак і 444 фатаздымкі. Беларускім гісторыкам варта запазнацца з гэтай кнігай ды напісаць адпаведную рэцэнзію, каб будучае пакаленьне ведала яшчэ пра адзін эпізод злачынства сталінска-камуністычнай улады над ні ў чым невінаватымі людзьмі, каторыя мужна ваявалі зь нямецкімі фашыстамі далёка ад роднай Бацькаўшчыны.

**Міхаіл Швэдзюк**
*Англія*

# Камэрсанты пад сьвятымі харугвамі

*Так называецца артыкул ва ўкраінскай газэце „Свобода" за 18 студзеня 2002 г., каторы ласкава даслаў на рэдакцыю сп. Мікалай Грэбень з Амэрыкі. Часткай гэтага артыкулу зьяўляецца інтэрвію Валянціна Лабунськага, узятага ім у аднаго з найбольшых маральных аўтарытэтаў праваслаўя, шматгадовага вязьня сумленьня, колішняга дэпутата Дзяржаўнай Думы Расеі Глеба Якуніна. Урывак з гэтага інтэрвію (у перакладзе з украінскай мовы) мы й падаем ніжэй.*

... Афіцыйна Руская Праваслаўная Царква (РПЦ) паведамляе, што гадавы бюджэт Маскоўскай патрыярхіі не перавышае 2 млн. дал. Аднак толькі ад масавага атручваньня насельніцтва Расеі нікатынам – продажу цыгарэтаў, якія патрыярхія мае права ўвозіць бяз пошліны – аддзел зьнешніх царкоўных сувязяў РПЦ штогод атрымлівае 100 млн. дал. Адзін толькі Мікола-Угрышскі манастыр, што знаходзіцца пад непасрэдным патранатам патрыярха Алексія II, ад спойваньня насельніцтва "зялёным зьмеем" – рэалізацыі алкагольных напоеў, каторыя патрыярхія таксама можа ўвозіць бяз пошліны – мае 350 млн. дал. чыстага прыбытку. Факт гандлю падобнаю "гуманітарнаю дапамогаю" (так называюцца цыгарэты й гарэлка ў мытных дэклярацыях Маскоўскай патрыярхіі) тытунёва-гарэлачнымі мітрапалітамі афіцыйна падцверджаны Генэральнаю пракуратураю Расеі. Тытунь складае 42 адсоткі ад усяе "гуманітарнае дапамогі", якую РПЦ атрымоўвае з-за кардону. Цераз падстаўныя фірмы ён трапляе на склады РПЦ, а потым разыходзіцца зь велічэзнаю нацэнкаю.

Толькі цераз акцыйнае аб'яднаньне "Міжнароднае эканамічнае супрацоўніцтва", у якім Маскоўская патрыярхія – асноўны заснавальнік, РПЦ за год атрымлівае 2 мільярды (!) дал. чыстага прыбытку. А колькі выручана ад гандлю золатам і дыямэнтамі, чым дужа актыўна й даўно таксама займаецца Маскоўская патрыярхія?! Сёньня некаторыя сьвятары РПЦ адкрыта гандлююць золатам. А патрыярх Алексій II адслужыў нават разам зь якуцкім шаманам, абы атрымаць сваю частку ў золата-алмазным бізнэсе, супольную службу. Цікава, якому Богу пры гэтым маліўся патрыярх?

Ігнаруючы праваслаўнымі канонамі, патрыярхія бярэ ўдзел у міраедстве, атрымліваючы прыбыткі ад камэрцыйных банкаў. Гэтак званы хрысьціянскі банк, напрыклад, прыкрываючыся удзелам Царквы, фактычна абрабаваў веруючых укладчыкаў – найбольш пэнсіянэраў – праз не аднаго разу выпрабаваны канал – фінансавую піраміду. Гэтаксама дзейнічаюць і такія фінансавыя структуры РПЦ, як банк "Пересвет" ды банк Хрыста Спасіцеля. Дарэчы, задумаемся над словазлучэньнем "банк Хрыста Спасіцеля". Ягоныя заснавальнікі, напэўна, ніколі ня бралі ў рукі Біблії, інакш ведалі-б, што Хрысту належаць словы: "Цяжка багатаму увайсьці ў Царства Нябеснае..."

Немагчыма коратка распавесьці пра абрабаваньне насельніцтва Расеі падчас будаўніцтва ў Маскве г. зв. Храму Хрыста Спасіцеля. Тады ўкралі не мільёны, а мільярды даляраў! Праз гэты сымбаль "новых русских", дарэчы, было прыпыненае разшырэньне маскоўскага мэтро, без чаго задыхаецца транспартная інфраструктура Масквы. Сымбалічна, што апошні сабор РПЦ быў праведзены ў гэтым самым храме. Хаця храмам назваць гэтае кубло грахадзейства не паварочваецца язык. Да таго папярэдняга сапраўднага храму, які ўзьнялі ў паветра бальшавікі, ён ня мае ніякага дачыненьня. Гэта пародыя на тую царкву. Калі ў цэнтры гораду амаль-што не засталося жыхароў, калі няма сродкаў хацяб закансэрваваць сапраўдныя старадаўнія цэрквы, якія руйнуюцца на нашых вачох, калі тысячы бабуляў-чарніцаў па ўсёй Расеі зьбіраюць міласьціну на рамонт храмаў, – у Маскве, дзеля задавальненьня палітычных амбіцыяў мэра, пад выглядам царквы ўзводзяць бэтоннага монстра й кажуць, што гэта знак пакаяньня. Але хто пакаяўся?! Замест таго, гэтая бэтонная навабудоўля зрабілася знакам зусім іншых зьяваў. Пад аўтаром, пад мейсцам для малітваў, тут збудаваны гараж на 600 мейсцаў, дзе мейсцы здаюцца за валюту, прычым за "благодатное освещение" кожнага "мерсэдэса " ці "BMW" бяруць адумысловую нацэнку. Там сама, пад сьвятынямі, разьмесьціліся рэстараны, саўна, бізнэсцэнтар. З гаражу на адпачынак ад зямных справаў "новых русских" падымаюць спэцыяльныя ліфты, якія абыйшліся расейскаму народу ў 1,3 млн. дал. Найдарожшы зь іх падымае асабліва паважных асобаў непасрэдна да аўтара. Ці не нагадвае гэты храм торжышча, зь якога Хрыстос батагом выганяў калісь гандляроў?!

Я глыбока веруючы чалавек. Прычым праваслаўны веруючы, хаця і ўважаю, што сучаснае праваслаўе перажывае глыбокі духовы крызыс. Я часта пытаюся ў сябе: як можа чалавек, які адзеў на сябе рызу й даў абет Богу, так відавочна пераступаць цераз Ягоныя запаветы? Як можа ён так бязсаромна здраджваць Богу, плююючы ня толькі на рэлігійныя, але й проста на людзкія прынцыпы? І знаходжу адказ: ні патрыярх Алексій II, ні ягонае акружэньне ніколі не былі духоўнымі настаўнікамі людзей. Гэта цынічныя, пазбаўленыя сумленьня людзі, якія выкарысталі й працягваюць выкарыстоўваць Царкву для раскошлівага зямнога жыцьця. Яны ніколі не былі веруючымі. Іхная мэта – матар'яльныя каштоўнасьці й цялесныя задавальненьні. У бытнасьць сваю дэпутатам Дзярждумы я выкарыстаў свой мандат, каб многа й плённа папрацаваць у архівах. У тым ліку і ў архівах колішняга КДБ СССР. У справаздачах КДБ Эстонскай ССР маскоўскаму цэнтру я знайшоў паясьняльную запіску пра кадэбоўскую дзейнасьць Аляксея Міхайлавіча Рыдзігера (цяперашняга патрыярха Алексія II), які меў агентурную мянушку "Дроздов". Вось што ў ёй напісана:

"Агент "Дроздов" (Аляксей Міхайлавіч Рыдзігер), 1929 г. н., сьвятар Праваслаўнай Царквы, адукацыя вышэйшая, кандыдат багаслоўскіх навукаў, дасканала валодае расейскаю, эстонскаю й трохі нямецкаю мовамі. Завербаваны 28 лютага 1958 г. для выяўленьня й распрацоўкі антысавецкіх элемэнтаў зь ліку праваслаўнага духавенства, дзе ён мае сувязі, якія складаюць для ворганаў КДБ апэратыўны інтарэс. Пры вярбоўцы ўлічвалася ў будучыні высоўваньне яго цераз наяўныя ў нас магчымасьці на пасаду Епіскапа Талінскага й Эстонскага. За час супрацоўніцтва з ворганамі "Дроздов" зарэкамэндаваў сябе з пазытыўнага боку, у яўках акуратны, энэргічны й камунікабэльны. Да выкананьня нашых заданьняў ставіцца зь вялікім жаданьнем іх выканаць і ўжо паставіў нам шэраг каштоўных матар'ялаў, у прыватнасьці, на сьвятара Паведскага. Пасьля замацаваньня агента на практычнай працы з ворганамі дзяржбясьпекі у канкрэтных агентурных распрацоўках маем намер выкарыстаць яго падчас адправак у царкоўных справах да капіталістычных краінаў..."

Вось які гэта "бацюшка". У 1974 г. ён назваў "гуманнаю акцыяй савецкага ўраду" незаконны арышт і пазбаўленьне грамадзянства й выгнаньне з краіны пісьменьніка Аляксандра Салжаніцына. Таго самага году Рыдзігер, прагнучы дагадзіць рэжыму, прыналёг на ўвядзеньне новых "багаслоўскіх" курсаў і лекцыяў у духоўных сэмінарыях. Вось як называліся толькі некаторыя з іх: "В. І. Ленін і культурная рэвалюцыя", "Камуністычная мараль пра суадносіны працы й сацыяльстычнай уласнасьці", "Выхаваньне новага чалавека – найважнейшая задача камуністычнага будаўніцтва".

Мяркую, досыць прыкладаў, каб пераканаецца, хто сёньня кіруе Маскоўскаю патрыярхіяю й што твораць яны за прыкрыцьцём аўтароў..."

*Запісаў* ***Валянцін Лабунські***

# ... Пасьля фальсыфікацыі выбараў

палітычная сытуацыя пачынае разьвівацца даволі драматычна. Галоўны націск у захопе Беларусі Масква пачынае рабіць не на фармальна-палітычнае аб'яднаньне й гандаль з Лукашэнкам, а на пакрокавае прыўлашчваньне беларускай эканомікі й нацыянальнай маёмасьці, на захоп нашай краіны эканамічнымі мэтадамі (дэ-факто), абмінаючы Лукашэнку. За гэты час Масква й ейная агентура ў Беларусі навязала сьціслыя кантакты з дырэктарамі беларускіх прадпрыемстваў. Стварыла ў дырэктарацe сваё лёбі, агентуру, прыхільнікаў і стаўленьнікаў. (Гэта нескладана было зрабіць, бо савецкі дырэктарат на Беларусі й так быў прамаскоўскі). Масква пачала захоп беларускіх прадпрыемстваў за плячыма Лукашэнкі, уступаючы ў кантакты непасрэдна з прадпрыемствамі й дырэктарамі.

Лукашэнка зразумеў: тое, што ён увесь час дорага хоча прадаць оптам (гэта значыць, Беларусь), маскоўцы імкнуцца скупіць па кавалачках за ягонымі плячыма. І калі гэтае зробяць, дык ён застанецца зь нічым (і нікім). Рэакцыя настала хуткая – дырэктароў пачалі арыштоўваць і саджаць. Трэба зразумець, што тут грызьня гіенаў, дзьвюх прамаскоўскіх антыбеларускіх групаў. Грызуцца за маёмасьць, лес і цела Беларусі. Агентурная журналістыка сьведама хоча паказаць дырэктарат як апазыцыю Лукашэнку, а арышты – як расправу з гэтай "апазыцыяй". Але трэба ведаць, хто піша й дзеля чаго пішацца. Дырэктарат – гэта не апазыцыя рэжыму, ён ніколі ня быў і ня будзе апазыцыяй. Бо для гэтага трэба мець беларускае сэрца, абараняць нацыянальныя інтарэсы й перажываць за Беларусь. Можна прадбачыць, што грызьня будзе павялічвацца. Выхаду ў Лукашэнкі няма – будзе кусацца. У пэрспэктыве можа выйграць Расея, бо інакш беларуская эканоміка ўпадзе зусім (спыніцца), і расейскі крымінальны капітал захоча забраць яе задарма.

На Захад Лукашэнка ня пойдзе (можа толькі пагуляць зь ім), гэта відавочна й зразумела. Стаўка на беларускую незалежнасьць і нацыянальную палітыку ў нацыянальных інтарэсах – выключаецца. Лукашэнка паталягічна ненавідзіць усё беларускае (дый ня тыя людзі за ягонымі плячыма). Сытуацыя ў Лукашэнкі, сапраўды, безвыходная (калі немцы не дапамогуць). Можна спытацца, што ў такім разе ён будзе рабіць? Тым, хто яго ведае, адказ зразумелы – грызьці й душыць, як казалі бальшавікі, "до последней капли крови".

У гэтым становішчы важна арганізаваць пасьлядоўны беларускі супраціў і палітычны выхад, каб унікнуць поўнага зьнішчэньня краіны. І такая работа вядзецца. Найперш – новыя выбары прэзыдэнта. Гэта ідэя агульнанацыянальнага кшталту, канкрэтная й зразумелая для ўсіх. (Калі ўлада нелегітымная, дык новыя выбары ёсьць першае, што мусіць стацца, каб вырашыць пытаньне). Разьвіцьцё ідэі й пашырэньне яе ў канкрэтных справах павіннае спрыяць назапашваньню сілаў, стварэньню сытуацыі палітычнага разьвязаньня, з вызначэньнем умовы бакоў і г. д. Новыя сытуацыі створаць новыя магчымасьці. Абсалютным тут зьяўляецца толькі змаганьне. Змаганьне з антыбеларускім рэжымам за свабоду, незалежнасьць і будучыню Беларусі.

**Зянон Пазьняк,** *Варшава*

***(Урывак з артыкулу "Будучыня Беларусі залежыць ад змаганьня")***



***Юрась Мацко.***

***Кампазыцыя "Без назвы". Мэталь.***

*Хведар Нюнька*

# Далёкая Аўстралія

На запрашэньне Фэдэральнай рады беларускіх арганізацыяў Аўстраліі мне пашчасьціла наведаць гэтую сапраўды далёкую, але цудоўную й багатую краіну. Нават сучасным магутным "Боінгам 777" з хуткасьцю палёта звыш 1000 км/гадз. патрэбна 23 гадзіны, каб прызямліцца ў аэрапорце Мэльбурна. Хаця некаторай інфармацыяй пра Аўстралію я валодаў, але, тым ня менш, рэчаіснасьць уражвала. Пасьля нашай, хоць і не суворай сёлета зімы, апынуцца ў 30-градуснай сьпякоце здавалася цудам. (Пік холаду ў Аўстраліі прыпадае на ліпень, а чым далей на Поўнач, тым цяплей).

А дагэтуль быў непрыкметны пералёт зь Вільні ў Вену. У Вене начоўка ў гатэлі "Астрон", у аднамесным нумары. Зь якойсьці прычыны адлёт адклалі амаль на суткі, даялося вярнуцца з аэрапарта ў гатэль. Аднак надалей ніякіх замінак у палёце не было. Прамежкавы прыпынак у Малайзіі, у Куала-Лумпур, для дазапраўкі палівам. Меў добрае мейсца каля ілюмінатара й мог аглядаць зямлю з вышыні 11 км. Пасьля Эўропы бачнасьць была выдатная – ніводнай хмурынкі. Унізе рысаваліся маляўнічыя краявіды, горы й зьмейкі дарогаў. Перад пасадкаю ў Мэльбурне разглядзеў добра дагледжаныя фермерскія гаспадаркі.

Палёт і акліматызацыю пераношу добра, не адчуў, можна сказаць, ніякае розьніцы ў часе, хаця яна складае 9 гадзінаў. У палёце пазнаёміўся зь немкай, фраў Мары, якая ляцела з Гамбургу, дзе мае кватэру. Але яна ўжо 30 гадоў жыве ў Аўстраліі. У Гамбург езьдзіла разам з сынам, аднак ён не схацеў вяртацца ў Аўстралію, хаця меў там выдатныя ўмовы для жыцьця й працы – назаўсёды застаўся ў Нямеччыне.

У мэльбурнскім аэрапорце мяне чакалі беларусы. Пасьля цёплых прывітаньняў адвезьлі да старшыні Рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі сп. Аўгена Грушы. Напярэдадні мяне чакала шмат сустрэчаў з аўстралійскімі беларусамі й цудоўнымі відамі Мэльбурну. А. Груша склаў плян майго 2-тыднёвага побыту ў горадзе, і я яму цалкам падпарадкаваўся. Дзе жыць – праблемаў не было, бо кожны беларус мае тут свой дом, дастаткова вялікі і ўпарадкаваны, а гасьціннасьць беларусаў аднолькавая ва ўсім сьвеце.

Азнаямленьне з Мэльбурнам пачалося з батанічнага парку, у якім знаходзіцца Музэй памяці жаўнераў Аўстраліі, што загінулі ва ўсіх войнах. Тут выстаўленае вайсковае адзеньне, адзнакі, сьцягі, паіменныя сьпісы загінуўшых. Штогод 11 лістапада тут на дзяржаўным узроўні адбываецца сьвяточнае памінаньне загінуўшых. Самы парк багаты расьлінамі з усяго сьвету, у тым ліку – высачэзнымі аўстралійскімі эўкаліптамі. З вышыні адкрываецца маляўнічая панарама гораду. Побач палац-рэзыдэнцыя губэрнатара штату Вікторыя.

Цэнтар Мэльбурну ўяўляе зь сябе шматпавярховыя пабудовы ў новым стылі. Багатыя гандлёвыя дамы ўжо не зьдзіўляюць – маем іх цяпер і ў Літве. Дарэчы, шмат гандлёвых цэнтраў належыць фірме "Маер", названай прозьвішчам уласьніка-жыда, выхадца зь Беларусі. З цэнаў цяжка зрабіць нейкія параўнаньні з нашымі. Аднак прыблізна можна лічыць, што ў Аўстраліі ўсё ў 2 разы даражэйшае. Хаця, скажам, яблыкі каштуюць на нашыя грошы 8 літаў за кг., а грушы – 2-3 літы. Танны мёд і цукар. Хлеб – 5 літаў, бэнзын – 1,6 літа, мяса й мясныя вырабы ў 2 разы даражэйшыя, але валовыя ці авечыя языкі каштуюць толькі 4 літы. Языкамі там нават сабакаў кормяць. Калі ўлічыць, што пэнсія ва ўсіх аўстралійцаў прыкладна аднолькавая й зусім не залежыць ад стажу працы й велічыні заробку, складаючы прыкладна 832 аўс. дал. на аднаго пэнсіянэра ў сям'і й па 770 аўс. дал. на двух, – дык лёгка можна ўявіць узровень жыцьця ў Аўстраліі.

Паводле расказаў нашых суайчыньнікаў, у 50-60 гг. беларуская грамадзкасьць Аўстраліі была шматлікая й вяла актыўную патрыятычную дзейнасьць. Будаваліся цэрквы й клюбы, дзейнічалі скаўцкія аб'яднаньні, спартовыя каманды, існаваў Беларускі вызвольны фронт. Умовы жыцьця ў той час былі амаль казачныя, неабмежаваная патрэба рабочых рук, высокія заробкі й сацыяльная абароненасьць, спрошчаныя атрыманьне аўстралійскага грамадзянства. На жаль, апошнімі дзесяцігодзьдзямі сытуацыя ўскладнілася. Адыйшла на вечны спачын большая частка нацыянальнасьведамых беларусаў, новыя законы эміграцыі рэзка абмежавалі прыток эмігрантаў. Дзеці беларускіх эмігрантаў у бальшыні карыстаюцца ангельскай мовай. Што-ж, так яно здаўна вядзецца, што эміграцыя ня мае будучыні. Асабліва, калі няма сваёй незалежнай дзяржавы, якая-б клапацілася пра сваіх суайчыньнікаў.

Ваенныя падзеі й палітычныя катаклізмы ў Карыі, Уетнаме, Кітаі ды іншых азіяцкіх краінах была выкарыстаная азіятамі для масавага перасяленьня ў Аўстралію. Гэта парушыла спакойны лад жыцьця й парадак у краіне. Азіяты прывезьлі з сабою наркотыкі, злдзействы й іншыя злачынствы. Уетнамцы й кітайцы запаланілі большасьць харчовых рынкаў і кавярняў. Шмат хто з азіятаў працаваць ня любіць, а толькі выкарыстоўвае спрыяльныя сацыяльныя ўмовы ў краіне, каб бязьбедна жыць. Складаецца ўражаньне, што з часам азіяты зробяцца бальшынёю аўстралійскага насельніцтва.

Праблема далучэньня аўстралійскіх абарыгенаў да цывілізацыі праходзіла складана. Распавядалі, што калі іх перасялялі ў новапабудаваныя дамы, дык яны пераратваралі іх у хлявы. Трусоў і курэй трымалі ў сьценных шафах, а каня ў кухні. Падлогі разьбіралі на дровы, нарэшце й зусім уцяклі на волю. Цяпер абарыгенаў засталося няшмат і знаходзяцца яны пад аховай дзяржавы. Некаторыя займаюць нават дзяржаўныя пасады. Так адбыўся іхны пераход ад каменнага да касьмічнага веку.

Праблемай нумар адзін для Аўстраліі зьяўляецца пітная вада. З большасьці сьвідравінаў выступае салёная, непрыгодная для піцьця вада. Самы жорсткі кантроль з боку дзяржавы вядзецца за расходаваньнем дажджавой вады, якая выкарыстоўваецца для грамадзкай патрэбы. У пэрспэктыве насельніцтва Аўстраліі можа павялічыцца ня больш як да 50 млн. чалавек, сёньня ў ёй пражывае 19 млн. Зімы ў Аўстраліі ў нашым разуменьні не бывае, таму некаторыя дамы там без ацяпленьня.

14 лютага паехалі са спадарамі Грушам і Грыцуком у Адэляйду. Гэта амаль 800 км. на захад. Надарылася магчымасьць пабачыць вялікі кавалак Аўстраліі. Магутная машына з рухавіком 3,8 літры маркі "Голдэн" ціха панесла нас па роўным асфальце. Хуткасьць абмежаваная – 110 км. Аўген сюд-тут ды перавышае хуткасьць, аднак прыбор на машыне дае сыгнал і даводзіцца сьцішваць язду. Дарожныя законы строгія й можна атрымаць штраф у 100 аўс. дал. Калі з паліцыяй сп. Грыцука заехаць па дарозе да маёй новай знаёмай фраў Мары, якая запрашала мяне ў госьці, той на складаным скрыжаваньні заехаў ня ў свой рад. Як на зло, там аказалася паліцыя й наклала штраф памерам 165 аўс. дал. Вось які там штраф за дробнае ў нашым разуменьні парушэньне. Хаця гаспадар і віду не паказаў, але я адчуваў сябе вінаватым. Штопраўды, фраў Мары прыйняла нас вельмі цёпла, чым скрасіла непрыемны дарожны інцыдэнт.

Па дарозе я любаваўся фермерскімі палеткамі. Амаль усе яны адгароджаныя ад шашы й ад суседзяў платамі з дроту. Шмат дзе стаіць згарэлая ад сонца трава. Вясною яна зялёная, а летам, у сьнежні, выгарае. Некаторыя фермеры косяць траву на корм, або пакідаюць для авечак і бычкоў. Лясоў у нашым разуменьні ня бачыў. Усюды растуць адзіночныя разгалінаваныя невысокія эўкаліпты. Безь ніякага нагляду пасуцца статкі авечак. Цераз колькі дзён прыяжджае гаспадар з сабакамі й забірае іх у патрэбнае мейсца. Раней авечак было шмат, авечая воўна йшла на экспарт. Цяпер попыт на воўну зьнізіўся й колькасьць авечак адпаведна значна скарацілася. На экспарт больш ідзе мяса бычкоў, якіх гадуюць тут шмат.

У часе падарожжа распавядаем пра нашае асабістае жыцьцё. Аўгену цяпер 67 гадоў, адпрацаваў 31 год кіроўцам на гарадзкім аўтобусе. Цяпер баляць калені – прафэсыйнае захворваньне. Два гады як ад раку памерла жонка Надзея. Жыве адзін у сваім доме. Трымае ажно трох сабакаў, вельмі, дарэчы, забаўных. Двое дзяцей Аўгена, Пятрусь і Таня, жывуць асобна. Па дарозе заяжджаем да Петруся – гэта 130 км. ад Мэльбурну. Там пераначавалі й нараньне выехалі ў Адэляйду. У Адэляйдзе Аўген загадзя замовіў мейсцы ў матэлі "Караван Парк" у цэнтры горада, з душам, кандыцыянэрам, тэлевізарам. Каштавала гэта 270 аўст. дал.

Было 15 лютага напярэдадні Дня незалежнасьці Літвы. Я пазваніў літоўскай дыяспары й павіншаваў літоўцаў са сьвятам. Яны й нас запрасілі на сьвята. На жаль, у Адэляйдзе мы мелі абмежаваны час і не скарысталі з запрашэньня. Затое пазнаёміліся зь цікавым чалавекам і сапраўдным беларускім патрыётам а. Міхаілам Бурносам. Як паўсюль, беларусы ў Адэляйдзе аказаліся гасьціннымі, яны пазнаёмілі нас з горадам, насельніцтва якога складае 1 млн. чалавек. Горад мне спадабаўся, багатыя дамы з разнастайнымі архітэктурнымі рашэньнямі. У парку Адэляйды тамтэйшыя беларусы зладзілі ў наш гонар пікнік, на якім уручылі мне памятныя падарункі. Вярнуліся ў Мэльбурн, поўныя ўражаньняў.

Апошнімі перад адлётам днямі наведаў беларускія могілкі. І тут парадак і дагледжанасьць. Надпісы на беларускай і ангельскай мовах. Асобна пабудаваная капліца ў памяць пра ўсіх, хто загінуў за Беларусь. Вось так шануюць аўстралійскія беларусы сваіх землякоў. Нізкі ім паклон за гэта.

Перад самым адлётам зладзілі пікнік у Барджары Віер, гэта 86 км. ад Мэльбурну, у гарах, дзе растуць шматвекавыя эўкаліпты дыямэтрам да 2,5 і вышынёю больш за 50 м., а яшчэ гіганцкія папаратнікі. На палянах зробленыя адумысловыя стаянкі для пікнікоў. Стаяць сталы, лавы, печы для "барбакю", поруч сухія дровы, краны з вадою, - усё па-людзку й безь ніякае аплаты.

22 лютага пры царкве адбылася разьвітальная вячэра. Айцец Аляксандар прачытаў малітву, ад усіх беларускіх арганізацыяў Аўстраліі мне былі ўручаныя падарункі. Сьпявана было шмат песьняў, асабліва мне запомніўся сп. Аўген Груша, які ведае беларускія песьні розных часоў. Такой памяці можна толькі пазайздросьціць... Так закончылася маё незабыўнае падарожжа ў далёкую Аўстралію, якая сталася мне цяпер не такою ўжо й далёкаю. Запрашэньне, цёплы прыём аўстралійскіх беларусаў лічу зразуменьнем і падтрымкай імі той цьвёрдай пазыцыі, якую займае Таварыства беларускай культуры ў Літве ў абароне свабоды й незалежнасьці Бацькаўшчыны.


Від на Мэльбурн ад "Маера"


Па дарозе ў Адэляйду


Старая забудова Адэляйды



Пікнік у Адэляйдзе



Капліца на беларускіх могілках у Мэльбурну, пастаўленая ў памяць усіх, хто загінуў за Беларусь



У Барджары Віер пад Мэльбурнам



Разьвітальная вечарына ў прыцаркоўнай залі ў Мэльбурне

## V Зьезд

Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага адбыўся 2 сакавіка 2002 г. На зьезд прыехалі дэлегаты з 4-ох раёнаў Іркуцкай вобласьці: Чарамхоўскага, Балаганскага, Баяндаеўчскага й Заларынскага, – ва ўсіх гэтых раёнах дзейнічаюць аддзяленьні ІТБК. Сваё прывітаньне перадалі таксама беларусы з далёкага паўночнага гораду Брацка. А з гораду Ўлан-Удэ – сталіцы Бурацііі – прыехала госьця, нашая зямлячка, спн. Алена Новік. Перад пачаткам зьезда была арганізаваная выстаўка-продаж беларускіх аўдыёкасэтаў, прадметаў беларускага народнага адзеньня, быў арганізаваны збор ахвяраваньняў на дзейнасьць таварыства.

Пачаўся зьезд праслухваньнем нашага нацыянальнага гімна “Магутны Божа”. Пасьля чаго з словам да ўдзельнікаў зьезду зьвярнуўся старшыня Заканадаўчага сходу Іркуцкай вобл. сп. Бароўскі Віктар Мітрафанавіч. Ён адзначыў, што беларусы Забайкальля ў значнай ступені спрыялі й спрыяюць разьвіцьцю рэгіёна, перадусім, у галіне сельскай гаспадаркі і будаўніцтве ГЭС, заводаў-гігантаў, БАМа. Ён адзначыў таксама, што ІТБК зьяўляецца актыўнай грамадзкай арганізацыяй, каторая аб’ядноўвае вакол сябе вялікую колькасьць людзей, што з намі лічацца, прыслухоўваюцца, у тым ліку, і органы абласной улады. З прывітальным словам выступалі таксама загадчыца Аддзелу ў справах нацыянальных і міжканфэсійных адносінаў Адміністрацыі Іркуцкай вобл. спн. Плахотнікава Сьвятлана Васільеўна. У прыватнасьці, яна заўважыла, што ў нашай арганізацыі шмат моладзі й мы працуем па многіх напрамках. Наступным выступаў віцэ-прэзыдэнт Польскай культурнай аўтаноміі Іркуцка сп. Шастаковіч Баляслаў Сяргеевіч, які зважыў на родна сны лёс беларускага й польскага народаў ды заклікаў да супрацоўніцтва ў правядзеньні мерапрыемстваў культурна-гістарычнага пляну. Апошнім з гасьцей выступаў дэпутат Гарадзкой Думы Іркуцку сп. Карнееў Юры Дыямідавіч, які падкрэсьліў важнасьць нашага таварыства ў станаўленьні грамадзянскай супольнасьці ў горадзе.

Зьезд пачаў сваю работу. Пасьля справаздачы старшыні ІТБК сп. А. Рудакова ў дыскусіі выступілі многія сябры таварыства: Якавенка, Грыбаноўская, Гусева, Быкава, Быкаў, Дакучыц, Красноў, Зінкевіч, Дзюбянок ды інш. Другім пытаньнем зьезда было абмеркаваньне фінансавай дзейнасьці ІТБК. Крыніцамі фінансаваньня таварыства зьяўляюцца сродкі, якія пералічваюцца на мерапрыемствы з абласнога бюджэту ў адпаведнасьці з артыкулам “Нацыянальная палітыка”, а таксама складкі сяброў ІТБК. Адразу-ж хочацца адзначыць, што вялікі фінансавы ўклад у рамонт офісу й выданьне нашага бюлеценя зрабіў Якавенка Ўладзімір Кузьміч, старшыня Рады дырэктароў “БайкалОнексимбанка”.

Надалей выбіраліся кіраўнічыя органы таварыства. Старшынём быў нанова абраны сп. Рудакоў Алег Васільевіч, ягонымі намесьнікамі засталіся Якавенка Ўладзімір Кузьміч і Грыбаноўская Аліна Эдвардаўна. Пасьля выбараў быў абмеркаваны “Пэрспэктыўны плян разьвіцьця ІТБК на бліжэйшыя два гады”. Канцэртная праграма зьезду складалася з выступленьняў маладзёвых і дзіцячых калектываў нашага таварыства, у прыватнасьці, ансамбля “Лёнушка” (кір. Сіпакова Таццяна Ўладзіміраўна), ансамбля “Пралескі” (кір. Гарбачова Ларыса Юр’еўна), а таксама ансамбаль Палацу дзіцячай і юначай творчасьці “Самацьветы” (кір. Рэчкіна Аксана Віктараўна). Ну, а закончыўся зьезд традыцыйным “бульбяшом” – сьвяточным застольлем зь беларускаю музыкаю, і, канечне-ж, скокамі. “Бульбяш” гэтым разам спансараваў генэральны дырэктар “Іркуцкай харчовай карпарацыі” Несьцяровіч Генадзій Нікалаевіч, а рыхтавалі ды накрывалі стол нашыя актывісткі Кашлева Алена Антонаўна ды Дзятлава Тамара Нікалаеўна.

***Рэдакцыя «Маланкі»***
*Іркуцк*

## Шчыра дзякую

вашай паважанай газэце, што заўсёды знаходзіце мейсца для нашага допісу й хронікі жыцьця беларусаў Аўстраліі. Па меры магчымасьці надалей буду пісаць да газэты, бо яна, сапраўды, ёсьць нашым лучнікам на эміграцыі як блізкага, так і далёкага замежжа.

**Аўген Груша**
*Аўстралія*

## Я ніколі не была ў Беларусі

а таму, калі шчыра, па-беларуску мне чытаць цяжкавата, але сэнс я разумею. Нарадзілася й вырасла я ў вёсцы, якую заснавалі беларусы. Мае продкі таксама выхадцы зь Беларусі. Мая маці нарадзілася ўжо ў Сыбіры, аднак размаўлялі ў нашай вёсцы прыкладна так: “Чаго ты, дзеўка, доўга ні едзіш дамоў?” Я ніколі не задумвалася пра сваё беларускае паходжаньне нават тады, калі стварыла ансамбль “самаходнай” песьні (“самаходамі” ў нас называюць выхадцаў і іхных дзяцей зь Беларусі). Сабрала такіх песьняў больш за 100. Сьпяваем. 23 сьнежня ансамбль адзначыў сваё 15-годзьдзе. Вось ужо другі год супрацоўнічаем з Абласным нацыянальным таварыствам “Беларусь” і ягоныя сябры ненавязьліва прымусілі мяне заняцца гісторыяй беларусаў-перасяленцаў. У нашым-жа адным раёне цэлая “беларуская аўтаномія”: 4 “самаходскія” вёскі пабач, а ў раёне іх усяго 8. Раней было больш – проста самыя маленькія вёсачкі разьехаліся. “Самаходы” ня лічаць сябе беларусамі, ужо ўсе яны паводле нацыянальнасьці рускія. Але ведаеце, калі больш пачалі гаварыць пра нашых продкаў, пра культуру, пра гісторыю, людзі крыху больш пачалі адчуваць сябе прыналежнымі да Беларусі, як да сваёй гістарычнай Радзімы, з задавальненьнем распавядаюць і згадваюць сваіх бацькоў, дзядоў. Аднак галоўнае тое, што яны захавалі традыцыі, сьвяты, абрады, песьні. А колькі ў нас вясельных песень! Апошнімі гадамі усе цікавяцца сьвятам “Раства Хрыстова”, які захаваўся ў нашых вёсках. Падчас сьвята пераходзяць з абразам з аднаго дому ў другі. Вельмі цікавы абрад!



Сьпявае фальклёрны ансамбаль беларусак-"самаходак" "Вячоркі"зь Цюменскай вобласьці

*Заслужаная работніца культуры РФ*
**Валянціна Міхеенка**
*в. Вікулава, Цюменская вобл.*

**Уільям Оўэн**

# Апошні зь Сіфартаў

*Заканчэньне. Пачатак у № 45*



Існуюць дзьве вэрсіі, якім чынам прарок Браган зрабіў свае прароцтва наконт сям'і Сіфартаў. Аднойчы яго запрасілі на баль у замак. З нагоды сьвяточнага балю шмат было запрошана маладзейшага шляхецтва. Яны пахваляліся адзін перад адным сваімі шляхотным паходжаньнем, выглядам, пахваляліся сваім багацьцем. Урэшце, убачыўшы прарока й, відаць, жадаючы атрымаць ад яго прадбачаньне сваёй шчасьлівай будучыні, нехта зь іх заўважыў: „Як цудоўна выглядае гэтая сустрэча дзяцей джэнтэльмэнаў!". Прарок адразу-ж адказаў, з уласьцівай яму шчырасьцю: „Я бачу сябе ў кампаніі кухараў ды конюхаў, а не дзяцей джэнтэльменаў!". Гэтая заўвага хутка дайшла да вушэй лэдзі Сіфарт ды іншых вяльможных жанчынаў, і яны былі так моцна пакрыўджаныя й абражаныя такім закідам у бок іхніх дзяцей, што вырашылі: прарок павінен быць пакараны.

Але існуе і іншая вэрсія, чаму Прарок нечакана з фаварытаў роду Сіфартаў стаў іхнім ворагам, чаму яго пакаралі й якім чынам ён прадказаў сьмерць апошняга зь Сіфартаў. Але й тут не абыйшлося бяз лэдзі Сіфарт. Яе муж граф Сіфарт на той час быў пасланы ў Парыж. Гэта адбывалася хутка пасьля Рэстаўрацыі Чарльза II. Граф ня надта добра выконваў свае дзяржаўныя абавязкі. Акрамя таго, ён працяглы час не даваў аніякіх зьвестак пра сябе сваёй жонцы. Яна, відаць, падазравала, што граф ня дбае пра інтарэсы сям'і ды дзяржавы ў Парыжы, а бавіць час сярод вясёлых парыжанаў, а найперш, парыжанак.

У сваім горы яна зьвярнулася да прарока Брагана, ведаючы, што ён валодае ўменьнем адгадваць, дзе чалавек знаходзіцца й чым займаецца. У прызначаны час Прарок зьявіўся да графіні ў замку Браган і звычайная ў такіх выпадках размова пайшла сваім чарадом.

Прарок спытаў, дзе Сіфарт мог быць, і пасьля кароткай прастрацыі паведаміў графіні:

- Страху няма для вашага лорда. Ён у бясьпецы, вясёлы й шчасьлівы. Будзьце ў гэтым упэўненай, - дадаў ён, - і не пытайцеся больш. Для вас дастаткова ведаць, што з вашым лордам усё добра й ён вясёлы.

- Але, - запатрабавала лэдзі, - дзе ён? З кім ён? І ці зьбіраецца ён вяртацца дамоў?"

- Ваш лорд, - патлумачыў прарок, - знаходзіцца ў цудоўным пакоі сярод надзвычай добрай кампаніі й вельмі далёкі ад думкі пакінуць Парыж.

Але графіня западозрыла, што прарок не паведаміў ёй усёй праўды пра мужа. Ёй не спадабалася, якім чынам ён распавядаў ёй пра яго. Прарок казаў гэта са зьдзеклівымі ноткамі ў голасе, як толькі ён умеў казаць нейкія непрыемныя рэчы. Графіня працягвала ўпэўніваць прарока, каб ён паведаміў ёй усю праўду, спрабавала нават падкупіць яго. Нарэшце прарок падняўся й сказаў: „Тое, што я вам паведамлю, зробіць вас няшчаснай, але, калі вы гэтак настойваеце, я вымушаны паведаміць вам праўду. Я бачу, што ваш лорд надзвычай мала думае пра Вас, пра Вашых дзяцей і пра Ваш шкоцкі дом. Я бачу яго ў вясёлым, упрыгожаным пакоі, аздобленым у аксаміт, шоўк і золата, на ягонай шыі ляжаць валасы жанчыны, ягоныя рукі абнялі яе за стан, ягоныя вусны датыкаюцца да яе вуснаў".

У гэтым нечаканым адкрыцьці гнеў графіні ня меў межаў. Але яна выліла яго на прарока, а не на заблукалага й нявернага мужа, таму што прарок распавёў ёй сапраўдную гісторыю яе дома. Магло так стацца, што ўзаемаадносіны яе мужа й францускай жанчыны выклікалі-б публічны скандал. Графіня імгненна прыняла рашэньне й з дастойнасьцю сапраўднай Лэдзі павярнулася да прарока й жорстка прамовіла: „Вы зараз казалі дрэнна пра дастойнага чалавека; вы ўзрушылі зямлю, на якой стаіце; вы зьняславілі гаспадара ў вачох ягоных васалаў; вы разьбілі маё сэрца і пакрыўдзілі мае пачуцьці; вы запэцкалі добрае імя майго лорда; і Вы павінныя памерці!"

Прарок, страшэнна ўражаны, напачатку ня мог паверыць, што графінін гнеў нагэтулькі сур'ёзны. Ва ўсялякім разе ён спадзяваўся, што праз некалькі гадзінаў графіня супакоіцца ды адпусьціць яго ў спакоі. Але яна не зьмяніла свайго рашэньня пакараць прарока. Урэшце яна дабілася, каб прысуд прароку быў вынесены. Прарок, або Кенэт Одгар, быў абвінавачаны Сьвятым Судом у тым, што прадаў душу нячысьціку. Дагэтуль варажэньне ды прадказаньне не лічылася ў Шкоцыі за злачынства. Але цяпер, патрабаваньнем графіні Сіфарт, улады прынялі закон аб тым, што прадказальніцтва адносіцца да найбольш цяжкіх злачынстваў. Нават калі Сьвяты Суд не знайшоў доказаў віны прарока, словы ўсемагутнай лэдзі сталі гэтым доказам. Абвінавачваньне супраць прарока было канчатковым. Ён быў памешчаны ў турму, дзе ўтрымліваўся некаторы час ды пакаштаваў усёй строгасьці турэмных уладаў. Пасьля яго пакаралі сьмерцю праз адсячэньне галавы. Мёртвую прарокаву галаву кінулі дзеля ўстрашэньня астатніх у бочку з кіпячай смалою.

І вось перад тварам сьмерці, калі прарок Браган паўстаў на месцы пакараньня, адбылося ягонае прароцтва наконт роду Сіфартаў. Ён казаў: „Я бачу гаспадара, апошняга зь ягонага дому, глухога й нямога. Ён будзе бацькам чатырох цудоўных сыноў, якія пакінуць гэты сьвет раней, чым ён сам. Ён будзе жыць, спакутаваны ад клопатаў і памрэ ў жалобе, ведаючы, што гонар ягонага дому зьнішчаны назаўсёды, і што няма будучыні ў Сіфартаў. Пасьля аплакваньня апошняга і самага ўлюбёнага з сыноў ён сам апусьціцца ў магілу. Парэшткі ягонае ўласнасьці патрапяць у спадчыну сьветлаваласай дзяўчыне з Усходу. І яна заб'е сваю сястру".

* * *

Вось гісторыя, якую ўжо амаль дзьвесьце гадоў распавядаюць у Шкоцыі. Але што адбылося насамрэч?

Пасьля сьмерці апошняга зь Сіфартаў гісторыю падзеньня роду ва ўсіх падрабязнасьцях паўтарылі практычна ва ўсіх сродках масавай інфармацыі ў Шкоцыі. Асабліва шмат увагі надзяліла гэтай гісторыі газэта „The Edinburgh Daily Review". Пасьля таго, як апошні зь Сіфартаў апынуўся на тым баку сьвету, была падрабязна апісаная барацьба ягонага кляну за спробу вярнуць назад іхнія землі. Ягоны бацька, пяты граф Сіфарт, быў небясьпечна паранены ў сутыкненьні з войскамі ўраду і быў змушаны адмовіцца ад свайго змаганьня. Пасьля ён быў перапраўлены чалавекам зь ягонага кляну на караблі спачатку на Заходнія астравы, а пасьля ў Францыю. Хутка пасьля гэтага ўсе ягоныя землі былі адабраныя на карысьць Кароны.

Нягледзячы на ўсе высілкі ўраду, афіцэры Кароны пацярпелі няўдачу пры намаганьні патрапіць у ягоныя маёнткі ці сабраць зь іх нейкую даніну. Пасьля род быў дараваны і землі вернутыя.

Але падзеньне Сіфартаў нарэшце настала і падзеньне мужчынскай лініі суправаджалася абставінамі незвычайнымі ды балючымі для роду. Фрэнсіс, лорд Сіфарт, апошні барон Кінтэйль, быў чалавекам з незвычайнымі талентамі, чалавек, які здолеў зрабіць сабе цьвёрдую рэпутацыю ў палітыцы, нягледзячы на сапраўдную хваравітую бездапаможнасьць. Глухі пасьля цяжкай хваробы ў дзяцінстве, ён часта траціў магчымасьць гаварыць, і тым ня менш, вылучаўся сваімі інтэлектуальнымі здольнасьцямі. Ён прадстаўляў Росшыр у парляманце шмат гадоў, пазьней стаў лорд-лейтэнантам графства. У час рэвалюцыйнай вайны з Францыяй ён падняў першаклясны полк са свайго графства Росшыр, у якім ён займаў пасаду камэнданта. Дайшоў да званьня генэрал-лейтэнанта. Праз шэсьць гадоў стаў губэрнатарам Барбадосу. Лорд Сіфарт меў чатырох сыноў і шэсьць дачок, усе зь якіх падавалі вялікія надзеі. Выглядала так, што род Сіфартаў павінен быў падняцца. Калі ён глядзеў на сваіх сыноў, тры зь якіх валодалі вялікімі маёнткамі, сэрца ягонае поўнілася надзеяю. Але ўсе ягоныя сыны памерлі ў маладым узросьце, адзін за адным, ад нечаканых хвваробаў на вачох у бацькі. Урэшце ён застаўся самотны пад прыгнётам прароцтва прарока Брагана.

Але яшчэ да таго, калі яшчэ былі жывыя ягоныя сыны, пачаліся беды ў сям'і. Дрэннае ўпраўленьне маёнткамі ў Заходняй Індыі прывяло да таго, што род займеў шмат даўгоў. Давялося прадаваць частку маёнткаў у Кінтэйлі, „зямлі абяцанай роду Сіфартаў". Арандатары ды сябры кляну спрабавалі дапамагчы, сабраць грошы, каб землі не прадаваліся, але з гэтага нічога не атрымалася. Маёнткі з землямі былі прададзеныя. Адзін за адным памерлі тры сыны. Застаўся апошні, самы малодшы й самы каханы. Гэты малады пан быў падобны да бацькі сваім талентам красамоўства. Ён, як і бацька ў свой час, прадстаўляў сваё графства ў парляманце. Але й гэты сын нечакана памёр ад невядомай хваробы. Разьбітае сэрца бацькі гэтага вытрымаць не магло. Цягам некалькіх месяцаў пасьля сьмерці апошняга з сыноў, магутны інтэлект бацькі моцна саслабеў. Яго разьбіў параліч. Яму заставалася толькі разумець, што ўсё скончана і ягоны род памёр.

Такім чынам праўдзівая гісторыя роду Сіфартаў цалкам адпавядае прадказаньням прарока Брагана. Усё адбылося так, як ён і прадказваў: апошні зь Сіфартаў памёр глухім і нямым, землі ягоныя былі прададзеныя, род скончыўся па мужчынскай лініі. Вялікія Сіфартавыя ўладаньні былі аддадзеныя ў спадчыну „сьветлаваласай дзяўчыне з Усходу". Гэтай сьветлаваласай дзяўчынай была старэйшая дачка лорда Сіфарта, якая засталася жывою. Яе звалі Мэры Фрэдэрык Элізабэт. У 1804 годзе яна выйшла замуж за адмірала сэра Самуэля Худа ў Заходняй Індыі. Калі яе бацька, на той час губэрнатар у Барбадосе, памёр, ягоны зяць саступіў яго на губэрнатарскай пасадзе. Пасьля ён некаторы час камандаваў флётам у Індыйскім Акіяне. Жонка заўсёды суправаджала яго. Але сэр Самуэль таксама хутка памёр. Ягоная маладая жонка засталася ўдавою й вырашыла вярнуцца дамоў, у Шкоцыю, каб прыняць у спадчыну тое, што засталося ад бацькавай маёмасьці.

Праз некаторы час Мэры ўдругарадзь выйшла замуж. Яе мужам стаў Сьцюарт, унук шостага графа Галоўэй. Ён купіў для сябе і сваёй жонкі вялікія маёнткі на поўначы. Адносіны Сьцюарта да маёмасьці Сіфартаў было не такім, якога чакалі. Жадаючы атрымаць больш грошай, ён прадаў сьвятыню роду востраў Левіс.

Праз некалькі гадоў у шчасьлівай сям'і здарыўся няшчасны выпадак, які зноў абрынуў апошнюю прадстаўніцу роду Сіфартаў у жалобу. І ня толькі. Аднойчы Мэры ехала са сваёй малодшай сястрою, Кэралайн у экіпажы, у які былі запрэжаны поні. Ехаць давялося празь лес недалёка ад замку Брагана, які некалі належаў іхным продкам і ў якім адбылося прароцтва. Поні нечакана панесьлі. Мэры не змагла іх стрымаць і разам зь сястрою вываліліся з экіпажу і абедзьве былі цяжка параненыя. Сама Мэры хутка ачуняла, а вось яе сястра гэтак і ня здолела справіцца з раненьнямі й неўзабаве памерла. Паколькі Мэры, старэйшая дачка лорда Сіфарта, кіравала поні, яна была вінаватая ў сьмерці сястры й такім чынам, пацьвердзіліся апошнія словы прарока Брагана пра „сьветлаваласую дзяўчыну з Усходу".

*Пераклад з ангельскай мовы і літаратурная апрацоўка **Лілії Сазанавец***

**Умовы падпіскі:**

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю *імянны чэк* сакратару газэты Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*). Кошт падпіскі на год – **$20**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак: *Please pay to AS Hansapank, HABA EE 2X at Bankers Trust Co., New York, BKTR US 33, for further credit to AB Hansabankas, HABA LT 22, in favour of VVIC "Demokratija Baltarusijai", account no.* **10 000 196 490.**

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (т: **61 62 24**) або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год – **12 Lt.**

**Падпішчыкам у Беларусі й краінах СНД** паведамляем адрас у Менску: *Александар Стральцоў, 220050 Менск, п/с 26*. Кошт падпіскі на год: у Беларусі – сума ў бел. рублях, эквівалентная **$ 3**, у краінах СНД – сума ў нацыянальнай валюце, эквівалентная **$ 5**.

**Падпішчыкам у Польшчы** паведамляем адрас : *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «а», 16006 Barszczewo*. Кошт падпіскі на год – сума ў злотых, эквівалентная **$ 8**.

Газэта зьмакетаваная ў настольна-выдавецкай сыстэме рэдакцыі "Atgimimas" atgimimas

Адрас для допісаў:
**«Рунь» 2001 Vilnius, a/d 1021, Lithuania**
*e-mail:* **editor@runbel.lt**

**Ахвяраваньні на газэту:**

| | |
|---|---|
| А. Міцкевіч з Амэрыкі | USD 20 |
| Ж. Касьцюкевіч з Амэрыкі | USD 30 |
| М. Грэбень з Амэрыкі | USD 50 |
| І. і В. Ільчукі з Амэрыкі | USD 50 |
| М. Бурнос з Аўстраліі | AUD 50 |
| М. Раецкі з Аўстраліі | AUD 50 |
| Л. Монід з Канады | USD 50 |
| Kon Worth з Амэрыкі | USD 30 |
| М. Смаршчок з Амэрыкі | USD 100 |
| Вітаўт і Вера Рамукі з Амэрыкі | USD 50 |

Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў

РУНЬ газэта беларусаў Літвы
Lietuvos baltarusių laikraštis
заснавальнік **Таварыства беларускай культуры ў Літве**
выдаўца **Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў *«Дэмакратыя для Беларусі»***
адрас рэдакцыі Taikos, 50-29, 2017 Vilnius
тэлефон: (+ 370 2) 26 10 62
факс:(+ 370 2) 42 38 02
**http:// www.runbel.lt**
*e-mail:* editor@runbel.lt
**Алег Мінкін** – рэдактар
**Павал Саўчанка** – сакратар
друкарня **UAB «Dumsa»**, Žirmūnų g. 68, Vilnius
наклад **1000**